ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# Бізнес на абочыне,

## альбо Колькі слоў пра айчынны прыдарожны сэрвіс, які аўральна шчэміцца ў “еўрапейскую лігу”




*Да нейкай пары пра той сэрвіс мала хто думаў. І ён клыпаў (лічы, навобмацак) усцяж беларускіх дарог, набіваючы гузакі тым, хто яго развіваў. Нарэшце Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў ад падначаленых, каб тыя больш актыўна развівалі прыдарожныя паслугі. “Гэта трэба рабіць хутка, — заявіў ён 30 лістапада 2007 года на семінары кіруючых работнікаў. — Пакуль у нас яшчэ ў многіх месцах нармальны прыдарожны сэрвіс проста адсутнічае”.*

### На абочыне «магістральнай лініі»

Другое прышэсце “бізнесу на абочыне” з таго і пачалося... Першае, як вядома, нахлынула ў шалёныя 90-я, калі ў краіне не было нават ліцэнзавання рознічнага гандлю і грамадскага харчавання: адкрывай гандлёвую кропку і працуй сабе... Гэта пасля 1996 года пачаўся жорсткі кантроль з боку дзяржавы, ды такі, што многія пачалі згортваць свой гандаль. Але вернемся да “прыдарожна-сэрвіснай” храналогіі... Дык вось, услед за Лукашэнкам (праз два гады) тагачасны прэм’ер Сяргей Сідорскі, наведваючы аб’ект прыдарожнага сэрвісу “На скрыжаванні” ў Іўеўскім раёне, запатрабаваў ад Міністэрства транспарту, Белкаапсаюза, мясцовых органаў улады больш актыўна прыцягваць інвестараў у прыдарожны сэрвіс. “*У гэтую справу неабходна больш актыўна ўключаць прыватны бізнес,* — сказаў ён. — *Штогод адзін аб’ект атрымлівае прыкладна 100—120 тыс. долараў прыбытку. Гэты бізнес можа прыносіць прыбытак”.* Сідорскі нагадаў, што для такога бізнесу ў краіне створаны добрыя ўмовы, дзейнічаюць падатковыя льготы, “інвестар павінен пра гэта ведаць і ісці туды”. Праўда, тут жа інвестары прызналіся кіраўніку ўрада, што не валодаюць інфармацыяй аб магчымасці развіцця згаданага бізнесу ў Беларусі. Сяргей Сідорскі тады запатрабаваў ад Мінтрансу дакладнай праграмы па ўзмацненні прыдарожнага сэрвісу, адначасова пагадзіўшыся, што аб’екты трэба будаваць у комплексе з АЗС, гатэлямі, пунктамі харчавання і адпачынку...

На паляпшэнне сферы прыдарожнага бізнесу было скіравана адразу некалькі прынятых урадам дакументаў. У прыватнасці, Нацыянальная праграма развіцця турызму ў Беларусі і праграма “Дарогі Беларусі” на 2006—2015 гады. На ўсё выдаткоўвалася больш за 23 трлн рублёў, а развіццё прыдарожнага сэрвісу аб’явілі адным з прыярытэтаў усёй праграмы. Здавалася, воз зрушыўся з месца, далей усё пойдзе нармальна. Тым больш што вырашылі і галоўную праблему, якая запавольвала развіццё прыдарожнай інфраструктуры, — спецыяльным указам спрасцілі працэдуру выдзялення зямлі пад аб’екты прадорожнага сэрвісу. Апошняе слова заставалася за тымі, хто пажадае займацца гэтым бізнесам. Але “сэрвіс пры дарозе” ўсё роўна заставаўся... на абочыне “магістральнай лініі” — той самай, якую сфармулявалі высокія начальнікі. Чаму?.. Паводле меркаванняў чыноўнікаў Мінтрансу, асноўная прычына невысокіх тэмпаў развіцця прыдарожнага сэрвісу заключаецца ў нізкай рэнтабельнасці гэтага бізнесу. Сапраўды, тэрмін акупнасці інвестыцый у аб’екты прыдарожнага сэрвісу значна больш працяглы ў параўнанні з аналагічнымі аб’ектамі ў населеных пунктах. Але што ці хто тармозіць рост тае рэнтабельнасці, у чым тут загвоздка?..

### «Кульгавы» сэрвіс

На думку прадстаўніка дэпартамента “Белаўтадар” Аляксандра Галаўнёва, развіццё інвестыцый, а значыцца, і развіццё прыдарожнага сэрвісу, стрымлівае слабая інтэнсіўнасць руху на дарогах краіны. Аказваецца, для рэнтабельнай працы ў дадзеным сектары бізнесу неабходна, каб па дарозе штодня праходзіла 7 тысяч аўтамабіляў. У нас жа гэтаму крытэрыю адпавядае толькі адна траса — М-1 (Брэст—Масква). Па іншых ажыўленых дарогах праязджае толькі каля трох тысяч машын. Сітуацыя прыкладна гэткая ж, як з аэрапортам “Мінск-1”, які загружаны на якія 10—15 працэнтаў...

Усё гэта сведчыць толькі аб адным: Беларусь — ніякая не супертранзітная краіна, хіба што толькі на паперы... І нават адзіная мытная прастора тут наўрад ці дапаможа, бо нічога істотнага не адбываецца: расійская нафта і газ цякуць у Еўропу па трубах (цяпер нямала яшчэ і ў абыход Беларусі), а іншай канкурэнтаздольнай расійскай і беларускай прадукцыі на Захадзе будуць чакаць доўга... І ўвогуле, папярэджвае задужа аптымістычных прагназістаў эканаміст Леанід Заіка, трэба ясна разумець: усе транзітныя паслугі больш як 10% ВУП не дадуць. Беларусі варта рабіць стаўку не на нейкую сваю важную транзітную ролю, а на развіццё эканомікі ведаў, той самай эканомікі, што будуецца на чалавечым капітале, а не на калёсах...

Але, здаецца, мы адхіліліся ад цэнтральнай тэмы — непасрэдна прыдарожнага сэрвісу. Як ні круці, але без яго — ні туды і ні сюды... Якой бы інтэнсіўнасць руху ні была на айчынных аўтадарогах, а “фасон” трымаць варта, інакш не стане і таго транзіту, што ёсць. У транзітным абслугоўванні што самае галоўнае? Каб кліент быў усім задаволены: пакрыццём дарогі, якасцю інфраструктуры — запраўкамі, прыдарожнымі кавярнямі, матэлямі, станцыямі тэхабслугоўвання, сучаснымі сродкамі сувязі, усяго таго, без чаго не можа абысціся ні дальнабойшчык, ні турыст, ні проста шараговы аўтааматар. А яшчэ, каб як мага болей пакінуў ён грошай у той кавярні ды хутчэй ехаў да іншай. Значыцца, усё гэта трэба развіваць. Калі верыць афіцыйным рэляцыям, зрухі ў лепшы бок тут ёсць.

Возьмем тую ж трасу М-1... Ад мяжы да мяжы — 180 аб’ектаў прыдарожнага сэрвісу: 40 АЗС, 12 станцый тэхабслугоўвання, 9 пунктаў пастою, 70 харчовых кропак, больш за сотню пляцовак для адпачынку. Калі параўноўваць з тымі стандартамі, што прыняты Еўрапейскім пагадненнем аб міжнародных аўтамабільных дарогах, то пакуль і запраўкі не праз кожныя 20 км, і станцыі тэхабслугоўвання зрэдзь, і пляцоўкі для адпачынку не ўсе пад аховай... Але ўжо не настолькі сітуацыя дрэнь, каб лічыць яе цалкам непрымальнай. З’явіліся нават свае “маякі” прыдарожнага сэрвісу, такія, да прыкладу, як кавярня “Валянціна” паблізу ад Брэста, ці прыдарожная “Дзедава карчма” за 10 км ад Мінска, альбо знакаміты ўжо гатэльны комплекс “Азёрны” ля Смалявічаў...

Іншая справа, што ўсе яны — на трасе №1; астатнія — што злучаюць абласныя цэнтры са сталіцай і проста міжгароднія — толькі прымерваюцца да тых “маякоў”. І ў большасці выпадкаў там “конь не валяўся”... Нават на Гродзеншчыне, дзе дарогі не горшыя, чым у Польшчы, прыдарожны сэрвіс кульгае на абедзве нагі: з абследаваных некалі Камітэтам дзяржкантролю 36 магазінаў і пунктаў грамадскага харчавання 25 не адпавядалі патрабаванням Палажэння аб парадку размяшчэння, архітэктурнага афармлення і абсталявання аб’ектаў прыдарожнага сэрвісу на аўтамабільных дарогах агульнага карыстання. Размешчаныя ўздоўж трас пляцоўкі адпачынку знаходзяцца ў нездавальняючым эстэтычным і санітарным стане. Дапускаюцца масавыя парушэнні заканадаўства, якое рэгулюе гандлёвую дзейнасць і грамадскае харчаванне.

І ўсё гэта прапаноўваецца не толькі браткам-беларусам, але і транзітным перавозчыкам — ездзяць жа яны не толькі па трасе М-1... Але больш за ўсё транзітнікі скардзяцца на якасць харчу і ягоны кошт. У Мінскай і Віцебскай абласцях дарожныя харчы прадаюцца з нацэнкай, якой могуць пазайздросціць каралі фастфуду Еўропы і нават Амерыкі. Звыклыя, здавалася, да спартанскага ладу жыцця расійскія вадзілы чэшуць рэпу, калі гаворка заходзіць пра шашлыкі, якія падаюць пад “фірменным” беларускім соусам. На трасе Орша—Віцебск соус той варганяць шляхам змешвання кетчупу і маянэзу, а таксама выпадкова трапіўшых у субстанцыю камароў. Прапорцыі вызначаюцца поварам — па ўсім — на вока. Нашы пасмейваюцца: расіяне зусім раздурэлі, не могуць пераварыць бяскрыўдных камароў з мухамі. Смех смехам, а прыватныя гаспадары такіх “сэрвісаў” высокія цэны (мусіць жа, і нізкую якасць абслугоўвання) апраўдваюць тым, што дальнабойшчыкі — рэдка спыняюцца ля іхных забягалавак, карыстаючыся ўласнымі “тармазкамі” і тэрмасамі...

### За беларускімі коштамі не ўгнацца

Высокія цэны на самыя ходавыя прадукты харчавання — няшчасце не столькі для замежных дальнабойшчыкаў, колькі для айчынных перавозчыкаў. Для замежніка 5—8 долараў, пакінутых у прыдарожнай кавярні, — невялікія грошы, а для беларуса — гэта ж немалая сума. Між іншым, хоць і лічыцца, што асноўны прыбытак прыдарожным сэрвісным пунктам прыносяць дальнабойшчыкі, на самай справе асноўны паток аўтамабіляў (60%) — беларускія легкавушкі. І потым ніякай рэнтабельнасці (хаця б у 3—4 працэнты) не дасягнеш, калі якасць харчу будзе адпужваць людзей, а кошт кубачка “беларускай” кавы будзе вышэйшы, чым ва Украіне ці ў Польшчы. Цяпер так і ёсць: кубак вельмі добрага эспрэса ў маленькай кафэшцы паблізу Чарнігава каштуе 4 грыўны — 1800 беларускіх рублёў; у Наспе (паблізу Жлобіна) такая ж кава, але па 2500 рублёў...

Гэтак было летась, але ж цэны ў Беларусі караскаюцца ўсё вышэй, не раўнуючы, паўзуць, як той цыган па драбінах у неба... Калі ў Польшчы ў любой прыдарожнай кавярні, у любым матэлі і рэстаранчыку можна паабедаць “па самае не магу” за якія 10 долараў, прычым меню на любы густ — ад сушы да хатняй кухні (адну страву можна смела заказваць на дваіх, бо талерка памерам з лапаць), дык у “Дзедавай карчме” за адзін шашлык, загорнуты ў два бліны, і келіх квасу выкладзеш усе сто тысяч рублёў. Уяўляю, колькі каштуе ў той карчме фірменная беларуская страва...

Самае прыкрае, што па частцы прыдарожнага сэрвісу нас абышлі не толькі палякі, але і расіяне з украінцамі... Верагодна, першых матывуе маючая адбыцца зімовая Алімпіяда, а другіх ужо прастымуляваў еўрапейскі чэмпіянат па футболе. На нашым жа адрэзку дарогі Мінск—Смаленск, якая набыла еўрапейскі выгляд, сэрвіс мала чым адрозніваецца ад таго, што быў за савецкім часам: гатэляў ды матэляў — кот наплакаў, затое парослых мохам і дзіравых ад часу “лясных” туалетаў у прыдарожным крапіўніку — хоць адбаўляй. Дарэчы, на трасе №1 таксама хапае “рэліктаў” савецкай эпохі: толькі ў асобных прыдарожных пунктах адпачынку — капітальна збудаваных — вы маеце шанец прыняць цёплы душ і не патрапіць на слізкую “міну” ўзбоч прыдарожнай паласы.

Але не будзем прыдзірацца да “дробязяў” — там-сям сустракаюцца і сучасныя гасцінічна-прыдарожныя комплексы з поўным наборам паслуг, і прыстойныя пункты пастою больш дробнага калібру з кавярнямі, барамі і рознымі іншымі біятуалетамі. Бяда ў іншым: задуманая рэарганізацыя прыдарожнага сэрвісу пасоўваецца па-чарапашы марудна, нават не паспявае за рэканструкцыяй дарог. Адна спадзяванка — на хакейны чэмпіянат свету, які павінен адбыцца ў 2014 годзе.

Цяпер толькі і гаворкі: прыдарожны сэрвіс павінен нарэшце набыць еўрапейскі лоск. Намеснік міністра гандлю **Аляксандр Забела,** напрыклад, запэўнівае, што яны хочуць наблізіцца да еўрапейскіх стандартаў, што ў Беларусі мусіць з’явіцца на кожныя 40 кіламетраў аўтатрасы не менш за адзін аб’ект прыдарожнага сэрвісу з АЗС, аўтасэрвісам, стаянкай, крамай, кавярняй ды ўсім астатнім. Але ж гаварылі, запэўнівалі і раней... Толькі, на думку кіраўніка ТАА “Светлагорскія перавозкі” **Алены Ляшэнка,** паўнавартаснага прыдарожнага сэрвісу ў Беларусі па-ранейшаму не існуе. На адрэзку аўтатрасы Светлагорск—Мінск, напрыклад, ёсць толькі... адно прыдарожнае кафэ. Абслугоўванне — на нізкім узроўні, да ўсяго — там часта прадаюць сапсаваную ежу. Вось так...

### «Народным» бізнесам тут і не пахне

І ўсё ж надзея ёсць. Па-першае, у незапоўненую бізнеснішу рынуліся расіяне з іх АЗС (цяпер на ўзводзімай прыдарожнай інфраструктуры іх ужо прыблізна 30%), па-другое, Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ №245, якім унёс змены і дапаўненні ў ранейшыя указы ад 2008-га і 2010 гадоў. Указ прадугледжвае скарачэнне фінансавай нагрузкі на інвестараў у сферы развіцця прыдарожнага сэрвісу. У прыватнасці, цяпер інвестары вызваляюцца ад выплаты зямельнага падатку і арэнднай платы за зямельныя ўчасткі на перыяд правядзення праектных і будаўнічых работ. Ад тых жа падаткаў вызваляюцца яшчэ на два гады пасля ўводу аб’екта ў эксплуатацыю. Карацей, настала... трэцяе сэрвіснае прышэсце. Праўда, і цяпер многія не вераць, што сітуацыя кардынальна зменіцца ў лепшы бок. Чаму? Адказ просты: для таго, каб адкрыць пры дарозе сваю, напрыклад, кавярню, трэба ўкласці 150—200 тысяч долараў. А дзе іх узяць беднаму беларусу?.. “Народным” бізнесам тут і не пахне. Разлічвалі ж якраз на тое, што прыдарожным сэрвісам заахвоціцца якраз дробны і сярэдні клас прадпрымальнікаў. “Кантрольным пакетам” прыдарожнага сэрвісу завалодаюць не беларускія бізнесмены сярэдняй рукі, а такія кампаніі, як “Газпром-нефть”, “ТНК-БиПи”, “Татнефть”, “Славнефть” ды іншыя. Між іншым, фінансавы ўнёсак у валавы ўнутраны прадукт краіны ад транзіту складае зараз прыкладна 5 млрд долараў. А гэта, па меркаванні эканамістаў, палова з таго, што могуць даць транзітныя паслугі, уключаючы паслугі на аўтадарогах.

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Чалавек-таямніца

*Камітэт дзяржаўнай бяспекі ўзначаліў Валерый Вакульчык. Яго называюць чалавекам-таямніцай. Ніхто не ведаў такога выбітнага дзеяча да таго часу, пакуль ён не быў прызначаны на кіраўніцтва новай спецслужбай — Аператыўна-аналітычным цэнтрам пры прэзідэнце.*

Далей — болей: Вакульчык стаў старшынёй Следчага камітэта. І зноў у самы адказны перыяд — падчас станаўлення гэтай структуры.

Дык хто такі Валерый Вакульчык?

Згодна з афіцыйнай біяграфіяй, Валерый Паўлавіч Вакульчык нарадзіўся 19 чэрвеня 1964 года ў Брэсцкай вобласці. У 1985 годзе скончыў Харкаўскае Гвардзейскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча, у 1992 годзе — Вышэйшыя курсы ваеннай контрразведкі КДБ СССР, у 2011 годзе — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У 1985—1991 гадах праходзіў ваенную службу ва Узброеных сілах, у 1991—2008 гадах — у органах дзяржаўнай бяспекі. 3 мая 2008 года быў начальнікам Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, з кастрычніка 2011 года — старшыня Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

### ДАСЛОЎНА

Сам Валерый Вакульчык пра сябе ніколі не расказваў. Ды і ніхто з чыноўнікаў не браўся характарызаваць гэтую фігуру, якая з’явілася неяк раптоўна і адразу на самых высокіх пасадах. Праўда, Аляксандр Лукашэнка ў розныя часы даваў новаму кіраўніку КДБ некаторыя характарыстыкі.

*“Вельмі важна, што ў сілавых структурах вы карыстаецеся заслужанай павагай. Нехта не любіць, нехта недалюблівае, але толькі па адной прычыне: з-за вашай сумленнасці і прынцыповасці. Мне патрэбны такі чалавек пры станаўленні гэтай структуры”,* — такую высокую ацэнку Вакульчыку даў А.Лукашэнка, калі прызначаў яго на пасаду кіраўніка Следчага камітэта.

*“Вы ўваходзіце ва ўсе структуры, карыстаецеся падтрымкай і даверам прэзідэнта — лепшага чалавека і не знойдзеш”.*

### ТЫМ ЧАСАМ

## Пазналі...

У афіцыйнай біяграфіі пазначана, што месцам нараджэння новага старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка з’яўляецца Брэсцкая вобласць. А вось раён і вёска не пазначаны.

“Мая мама пазнала Вакульчыка, — расказала рэдактар сайта “Хартыя’97” Наталля Радзіна. — Ён родам з той жа вёскі, што і мая бабуля, — Радастава Драгічынскага раёна. Яго бацька працаваў там жа старшынёй калгаса.

Мой родны дзядзька вучыўся з Вакульчыкам-малодшым у адным класе”.

Як паведамляе сайт nn.by, у Радаставе і ваколіцах сапраўды жывуць Вакульчыкі.

Вёска знаходзіцца на самай мяжы з Украінай, у вайну там была савецкая партызанская зона. Гэта такая глуш, што ў суседняй Сварыні нават дзейнічаў партызанскі аэрадром — немцы сюды рэдка даходзілі. За лесам жа і балотам, у Дзівіне цяперашняга Кобрынскага раёна, панавалі партызаны Украінскай паўстанцкай арміі. Нядаўна там нават хацелі павесіць шыльду ў іх гонар.

У Радаставе прыкладна 570 хат, пражывае каля 1500 чалавек.

РЕБУС

# А нужны ли деревне дипломаты?

До сих пор в Беларуси окончательно не определены новые правила поступления в вузы, по которым должна пройти вступительная кампания 2013 года. Хотя проект новой редакции Министерство образования уже подготовило. Утвердить правила должен президент специальным указом.

Он как раз на днях, выступая перед студентами и преподавателями Белорусского государственного экономического университета, высказался насчет того, что по некоторым специальностям надо расширить целевой набор и отбирать туда преданных государству людей. В качестве примера Александр Лукашенко привел сотрудников Комитета государственной безопасности. А также отметил, что *“есть и другие направления”. “К ним я отношу в том числе политических и экономических международников. Поэтому не исключено, что мы очень серьезно, целевым образом из общества будем выкристаллизовывать этих людей. Здесь должны быть честные и преданные люди, до мозга костей государственные,* — заявил Александр Лукашенко. — *В этом плане мы прорабатываем все эти вопросы. И притом будем их форсировать, чтобы до нового учебного года уже как-то представлять, каким образом и где мы будем целевым образом отбирать этих людей. Это должны быть еще и люди с огромным запасом знаний и способностями работать на этой работе”.*

Стоит отметить, что факультет международных отношений БГУ и факультет международных экономических отношений БГЭУ — весьма престижные, конкурсы на эти специальности всегда высокие. Например, в этом году, чтобы поступить на факультет международных отношений БГУ на специальность “международные отношения”, надо было показать действительно блестящие знания и набрать 369 баллов из 400 возможных. На специальность “мировая экономика” проходной балл составлял 366. Не намного меньше баллов набрали и абитуриенты, которые стали первокурсниками факультета международных экономических отношений БГЭУ — 348 на специальность “мировая экономика”.

Целевые наборы на данных факультетах пока не практикуются. Но известно, что конкурсы “целевиков” всегда ниже общих. Например, в не менее престижном Белорусском государственном медицинском университете целевые наборы существуют уже не первый год. И как показывает практика, значительно меньше баллов при поступлении набирают абитуриенты, у которых есть целевое направление. Например, в этом году на лечебный факультет БГМУ проходной балл составлял 342. А по целевым направлениям на первый курс были зачислены абитуриенты из Могилевской области, которые смогли набрать всего лишь 213 баллов. На фармацевтическом факультете эта разница могла составлять вообще 191 (!) балл: проходной балл по общему конкурсу был 350, а “целевиков” из Гомельской области зачислили с результатом 159 баллов.

Можно предположить, что теперь такая “льгота” откроется для будущих международников. Хотя, если честно, не понятно, какой может быть целевой набор на подобные специальности — что, в деревнях Брестской или Могилевской области не хватает дипломатов или экономистов-международников?

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**




**Студентов-”целевиков” на ФМО БГУ пока нет.**

К СЛОВУ

## Медалистов и победителей олимпиад — без вступительных...

*Министерство образования совместно с президиумом Совета ректоров уже высказались относительно того, какие поправки они хотели бы видеть в новой редакции правил приема в вузы. Документ сейчас находится в Администрации президента.*

### Предлагается:

— отменить раздельный конкурс среди выпускников сельских и городских школ;

— отменить зачисление в вузы вне конкурса детей-сирот и детей, оставшихся без попечения родителей;

— ввести единую для всех вузов страны методику подсчета баллов при поступлении на специальности культуры и искусства, на которые проводится вступительное испытание по предмету “Творчество”;

— ограничить прием на заочную бюджетную форму получения высшего образования;

— ввести норму, разрешающую подачу документов в приемные комиссии доверенными лицами абитуриентов, которые по уважительной причине не могут это сделать сами. Например, болеют или участвуют в международных конкурсах, находятся на соревнованиях;

— принимать в вузы и колледжи белорусов, которые постоянно проживают на территории иностранных государств, а также граждан России, Казахстана, Кыргызстана и Таджикистана на условиях, которые предусмотрены для иностранных граждан, т.е. без экзаменов, а по результатам собеседования и с более высокой оплатой;

— зачислять без вступительных испытаний на педагогические специальности вузов выпускников-медалистов, а также победителей (дипломы I, II, III степеней) третьего (областного, Минского городского) этапа Республиканской олимпиады по учебным предметам, для которых данный предмет определен предметом первого профильного испытания;

— увеличить прием на условиях целевой подготовки на сельскохозяйственные специальности с 30% до 60%;

— расширить круг абитуриентов, которые могут получить целевое направление на обучение в вузе. Сейчас такое направление могут получить только сельские жители, а также абитуриенты, которые проживают в загрязненных после аварии на ЧАЭС территориях или в населенных пунктах с населением не более 20 тысяч человек;

— увеличить нижнее значение тестового балла, начиная с которого отметка при поступлении в вуз будет признаваться удовлетворительной, с 7 баллов (как было в 2012 году) до 10 баллов.

Хотелось бы отметить, что до старта вступительной кампании осталось не так много времени. А ясности до сих пор нет.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ШЧЫРА

## Прэм’ер-міністр прызнаў, што летась Беларусь была на мяжы дэфолту

Выратавалі яе жорсткія адміністрацыйна-абмежавальныя меры, прынятыя ўрадам.

Пра гэта заявіў Міхаіл Мясніковіч на пленарным пасяджэнні Кансультацыйнага савета па замежных інвестыцыях пры ўрадзе. Па словах прэм’ера, абмежавальныя дзеянні з боку ўрада ў 2011 годзе спрыялі стабілізацыі і недапушчэнню дэфолту, які рэальна пракглядаўся, і забеспячэнню стабільнасці валютнага рынку.

Мясніковіч адзначыў, што гэтыя меры былі часовымі.

У СУСЕДЗЯЎ

## Пасол Літвы ў Беларусі стане міністрам замежных спраў

Пра гэта дамовіліся чатыры партыі новай кіраўнічай левацэнтрысцкай кааліцыі: сацыял-дэмакраты, Партыя працы, “Парадак і справядлівасць” і Выбарчая акцыя палякаў Літвы. Лінас Лінкявічус узначаліць Міністэрства замежных спраў, калі супраць не выступіць прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ.

Прэм’ерам будзе лідар сацыял-дэмакратаў Альгірдас Буткявічус.

Нагадаем, што пасол Літвы ў Мінску Лінас Лінкявічус пакінуў Беларусь яшчэ 8 лістапада. Ужо тады было зразумела, што ён, вельмі верагодна, зойме высокі пост у новым урадзе.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 ЛІСТАПАДА 2012 г.

СІТУАЦЫЯ

# Бервяно на дарозе,

## або Ці патрэбны беларускай школе высакакласныя настаўнікі?

*(Перапіска без каментарыяў)*

14.02.2011 г.

**Начальніку аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама**

Хаця я маю ўжо пенсійны ўзрост, але маё настаўніцкае майстэрства і мой досвед маюць попыт. Да мяне прыходзяць вучні, каб я дапамог ім падрыхтавацца да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы. Мая дапамога каштуе грошай, якія не кожная сям'я можа знайсці. Хацелася б дапамагчы бедным сем'ям, бо даволі часта там знаходзяцца таленавітыя дзеці, якія, не атрымаўшы своечасовай дапамогі, губляюцца ў жыцці. Я прапаноўваў некалькім дырэктарам школ весці свае пазаўрочныя заняткі матэматыкі для невялікіх груп (да 6 чалавек) бясплатна. Дырэктары сустракалі маю прапанову прыхільна, але кожны з іх казаў, што сам не можа вырашыць гэтае пытанне, патрабуецца дазвол упраўлення адукацыі.

Таму я звяртаюся да Вас: прашу даць дазвол на мае бясплатныя заняткі матэматыкай у падначаленых Вам школах з невялікімі групамі старшакласнікаў, якія рыхтуюцца да здачы тэстаў па матэматыцы. У выпадку станоўчага адказу ўсе астатнія пытанні, звязаныя з такімі заняткамі, я буду вырашаць з кіраўнікамі школ.

**М.П.БУЛАВАЦКІ,**
**настаўнік вышэйшай катэгорыі,**
**індывідуальны прадпрымальнік**
**у галіне матэматычнай адукацыі.**

23.02.2011 г.

**Булавацкаму М.П.**

Паважаны Міхаіл Пятровіч!

Аддзел адукацыі Магілёўскага гарвыканкама, разгледзеўшы Ваш зварот, інфармуе пра наступнае.

У кожнай агульнаадукацыйнай установе горада арганізаваны па запытах бацькоў на бясплатнай аснове факультатыўныя заняткі для падрыхтоўкі вучняў да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы. Факультатыўныя заняткі праводзяцца з невялікімі групамі вучняў у пазаўрочны час.

Праводзіць заняткі па падрыхтоўцы вучняў да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы ў агульнаадукацыйных установах горада па запыце бацькоў могуць толькі настаўнікі ўстаноў адукацыі.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам Вы маеце права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама (г.Магілёў, вул.Першамайская, д.71).

**Я.І.ДУПЛЕЎСКІ,**
**начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама.**

15.03.2011 г.

**Начальніку аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Дуплеўскаму Я.І.**

Паважаны Яўген Іванавіч!

Правучыўшыся на ўроках і на факультатыўных занятках у настаўнікаў школ, гімназій, вучні ідуць да мяне за матэматычнымі ведамі і плацяць за гэта немалыя для іх сямейнага бюджэту грошы. Па вельмі простай прычыне: я магу зрабіць тое ж значна лепш, чым гэта робяць мае былыя студэнты, якія працуюць у навучальных установах горада (выбачайце за нясціпласць).

Вы пішаце: "Праводзіць заняткі па падрыхтоўцы вучняў да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы ў агульнаадукацыйных установах горада па запыце бацькоў могуць толькі настаўнікі ўстаноў адукацыі". Гэтая фраза мяне здзівіла. Я шмат разоў, будучы выкладчыкам універсітэта, праводзіў розныя заняткі ў школах горада, і тады гэта лічылася нармальным. Няўжо тут нешта змянілася? Калі працытаваная фраза адпавядае нейкай пастанове міністэрства ці іншага адукацыйнага органа, тады назавіце мне тую пастанову з яе нумарам і датай, каб я мог перайсці на размову з гэтым органам. У іншым выпадку гэта становіцца асабіста Вашым рашэннем, на мой погляд, зусім неразумным. І калі Вы станеце ўпарціцца ў такім рашэнні, я буду змушаны перанесці размову на старонкі прэсы і звярнуцца да бацькоў тых вучняў, якія з маёй дапамогай маглі б атрымаць лепшую матэматычную адукацыю, але "дзякуючы Вам" не атрымаюць. Думаю, што не варта Вам так рызыкаваць сваёй рэпутацыяй, ставіць пад сумненне свой аўтарытэт як кіраўніка органа АДУКАЦЫІ. Як я разумею, кіраўнік у сістэме адукацыі павінен выкарыстоўваць любыя магчымасці для таго, каб дзеці падначаленага яму рэгіёна атрымалі самую высокую адукацыю. Хіба Вы сваю ролю бачыце іншай?

Ваш недазвол на мае бясплатныя заняткі, натуральна, аблегчыць мне жыццё. Але ўскладніць жыццё нашай краіны, для якой, несумненна, лепш, калі яе грамадзяне атрымаюць больш грунтоўную адукацыю. Наўрад ці разумна Вам пачынаць сваю дзейнасць на такой высокай пасадзе з падобных непаразуменняў.

Таму я прашу ўдумліва аднесціся да маёй прапановы і вырашыць пытанне на карысць вучняў і нашай краіны.

З добрымі пажаданнямі —

**Міхась (такое імя ў маім пашпарце) БУЛАВАЦКІ, настаўнік вышэйшай катэгорыі, аўтар вучэбных дапаможнікаў "Матэматыка — 5бг", "Цалкам зразумелая трыганаметрыя" і чатырох дзясяткаў навукова-метадычных публікацый па праблемах выкладання матэматыкі, навуковы кіраўнік эксперыменту па засваенні настаўнікамі г.Мінска наватарскіх тэхналогій навучання (1987—1992) ды інш.**

28.03.2011 г.

**Булавацкаму М.П.**

Паважаны Міхась Пятровіч!

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 5 ліпеня 2006 г. №141-3 "Аб агульнай сярэдняй адукацыі" да ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу ва агульнаадукацыйных установах адносяцца: педагагічныя работнікі, вучні і іх законныя прадстаўнікі (гл.6, арт.43). Да педагагічных работнікаў агульнаадукацыйных устаноў адносяцца спецыялісты, якія ажыццяўляюць навучанне і выхаванне вучняў у гэтых установах адукацыі (гл.6, арт.46).

Выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў маюць права ажыццяўляць педагагічную дзейнасць (пры наяўнасці вакантных гадзін) ва агульнаадукацыйных установах на ўмовах тэрміновага працоўнага дагавору па сумяшчальніцтве.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам Вы маеце права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама (г.Магілёў, вул.Першамайская, д.71).

**Я.І.ДУПЛЕЎСКІ,**
**начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама, настаўнік вышэйшай катэгорыі, бакалаўр педагагічных навук, пераможца абласнога конкурсу "Настаўнік-2004", пераможца абласнога конкурсу "Лепшы педагог дадатковай адукацыі — 2006", аўтар праграмы "Краіназнаўства англійскамоўных краін" ды інш.**

30.03.2011 г.

**Начальніку аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Дуплеўскаму Я.І.**

Паважаны Яўген Іванавіч!

Агледзеўшы тытулы, якімі Вы падпісалі свой ліст, магу сказаць наступнае: калі б я быў начальнікам аддзела адукацыі, то дазволіў бы Вам весці любыя заняткі ў любой школе, а калі без аплаты, то і з радасцю. Ніякіх перашкод такой ініцыятыве з майго боку не было б.

Што ж тычыцца канкрэтна майго запыту, то я нешта не зразумеў. Ці Вы не лічыце мяне педагагічным работнікам? Але ж спецыяльнасць "настаўнік" пазначана ў маім дыпломе.

І я не прэтэндую на наяўнасць "вакантных гадзін" для працы па сумяшчальніцтве. Я не шукаю заробку. Я прапаную сваю працу **без аплаты** з тымі вучнямі, якія прыйшлі б да мяне дадому і плацілі б грошы за маю працу, калі б тыя грошы ў іх былі. Ну не могуць яны плаціць, бо бацькі небагатыя. І я ведаю, што менавіта ў такіх сем'ях бываюць найбольш таленавітыя дзеці. Дайце ж ім магчымасць навучыцца матэматыцы з маёй дапамогай. Яны гэтага хочуць, і бацькі іх гэтага хочуць, і дырэктары школ прыязна ставяцца да гэтага. Ні ад школы, ні ад гарвыканкама не спатрэбіцца нават капейкі за дадатковую прыстойную матэматычную адукацыю для асобных вучняў. Ад Вас патрабуецца адно толькі слова: **згодны**.

Акрамя матэматыкі, яны яшчэ і мову нашу родную засвояць, бо я выкладаю матэматыку на беларускай мове. Яны хоць пачуюць, як яна, жывая, гучыць, якая яна прыгожая, і навучацца самі размаўляць на гэтай мове.

І я ўвогуле здзіўлены, што слова "**згодны**" Вам так не хочацца вымавіць. Што ж перашкаджае?..

**М.Булавацкі.**

08.04.2011 г.

**Булавацкаму М.П.**

Паважаны Міхась Пятровіч!

Аддзел адукацыі Магілёўскага гарвыканкама, разгледзеўшы Ваш зварот наконт дазволу правядзення бясплатных заняткаў па матэматыцы з вучнямі агульнаадукацыйных устаноў, інфармуе пра наступнае.

Па гэтым пытанні Вам былі дадзены вычарпальныя тлумачэнні ў пісьмовай форме.

У выпадку нязгоды з дадзенымі адказамі Вы мелі права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама (у кожным адказе ўказаны канкрэтны адрас).

На жаль, Вашы довады разыходзяцца з дзеючым заканадаўствам у сістэме адукацыі.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 6 чэрвеня 1996 г. №407-XIII "Аб зваротах грамадзян" перапіска з Вамі па дадзеным пытанні спыняецца.

Дзеянні аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Вы маеце права абскардзіць ва ўстаноўленым парадку, у тым ліку ў судовых інстанцыях.

**Я.І.Дуплеўскі,**
**начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама.**

15.04.2011 г.

**Начальніку аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Дуплеўскаму Я.І.**

Яўген Іванавіч! Вы не любіце дзяцей. І ўсе тыя тытулы, якімі Вы падпісалі адзін з сваіх лістоў, зарobleныя Вамі не для таго, каб дапамагчы дзецям у іх развіцці, а для ўласнай кар'еры. Зараз, калі Вы ступілі на прыступку кар'ернай лесвіцы, Вы баіцеся. У Вас паталагічны страх зваліцца з гэтай лесвіцы, бо Вы не любіце дзяцей і Вам вельмі не хочацца вяртацца ў іх бурлівае асяроддзе. Гэты страх і прымушае Вас паводзіць сябе вельмі асцярожна, каб не прагневаць тую "адвёртку", якая верціць Вамі, "вінцікам" гэтай бюракратычнай машыны. Вам хочацца залезці яшчэ вышэй, бо Вам здаецца, што гонар чалавека — у важкасці той пасады, якую ён займае. Гонар чалавека Вы ацэньваеце велічынёй матэрыяльнага дабрабыту, які дае пасада. Звычайная памылка маладога і няправільна выхаванага чалавека. Гэтая чалавечая паталогія робіць Вас нецікавым для мяне, таму і я спыняю кантакты з Вамі.

Такія тыпы людзей добра апісаны ў літаратуры. І калі Вы перачытаеце Гогаля ці Салтыкова-Шчадрына, то сярод іх герояў Вы пазнаеце сябе. Зычу Вам поспехаў у кар'ерным прасоўванні, бо чым вышэй Вы на гэтай лесвіцы, тым далей ад дзяцей, а гэта для іх лепш. Служыце!..

**М.БУЛАВАЦКІ.**

## АД РЭДАКЦЫІ

**Замест каментарыя толькі скажам: перапіску настаўніка вышэйшай катэгорыі (!) Міхася Пятровіча Булавацкага с мясцовымі чыноўнікамі мы адрасуем міністру адукацыі С.А.Маскевічу. Яго афіцыйны адказ абавязкова будзе надрукаваны на старонках "Народнай Волі".**

У ДАРОГУ!



Прыдумаў жа чалавек…

ПАЗІЦЫЯ

# Атакуйце Лідзію Ярмошыну…

**Нейкая сонная ў нас апазіцыя. Спіць-спіць, а потым ускоквае за месяц да прэзідэнцкіх альбо парламенцкіх выбараў і пачынае крычаць: "Каравул! Зноў Ярмошына будзе праводзіць галасаванне па старым кодэксе…" А дзе вы, хлопцы, раней былі? Што, не ведаеце, калі і якія ў нас па законе выбары? І што Выбарчы кодэкс не мяняецца за два-тры тыдні?**

**Вось нядаўна амаль ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'явілася паведамленне, што створана рабочая група па выпрацоўцы змяненняў у Выбарчым кодэксе. Чаму маўчыць партыя Зянона Пазьняка, які ў апошні час стаў ледзь не паплечнікам Аляксандра Лукашэнкі? Дзе гучныя заявы Партыі БНФ, якую сёння ўзначальваюць такія "гіганты-рэвалюцыянеры", як спадары Аляксей Янукевіч і Рыгор Костусеў? Не чуваць голасу і лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, які неаднойчы абураўся антыдэмакратычным Выбарчым кодэксам. Не атакуе Ярмошыну з рацыянальнымі прапановамі старшыня партыі "Справядлівы свет" Сяргей Калякін, як не атакуюць яе і лідар Руху "За свабоду" Аляксандр Мілінкевіч, кіраўнік кампаніі "Гавары праўду!" Уладзімір Някляеў. Маўчаць, быццам вады ў рот набраўшы, і многія іншыя "бацькі беларускай дэмакратыі". Я ўжо не кажу пра нейкіх там гайдукевічаў, якія, пускаючы пыл у вочы, фактычна гуляюць на баку ўлад.**

**Што цікава, увесь белы свет ведае пра тую смехатурную пікіроўку паліттусоўшчыкаў, якая вядзецца з першых дзён пасля правальных парламенцкіх выбараў за права *"быць адзіным і галоўным"* ад апазіцыі. А пра галоўнае — на падставе якога закона будуць праводзіцца чарговыя выбары? — ні гу-гу! Як быццам і не ведаюць, што конь павінен стаяць наперадзе воза, а не ззаду яго.**

**Хочаце, каб наступныя прэзідэнцкія выбары прайшлі дэмакратычна, празрыста — ужо сёння ўсімі даступнымі сродкамі дабівайцеся гэтага. Патрабуйце ўключэння ў рабочую групу па ўдасканаленні Кодэкса вашых прадстаўнікоў, вопытных экспертаў, прапаноўвайце канкрэтныя варыянты. Касцьмі ляжце, але зрабіце так, каб у новым законе было прапісана, што ў выбарчыя тэрытарыяльныя камісіі абавязкова павінны ўваходзіць прадстаўнікі кандыдатаў. Пакуль выбары будзе праводзіць існуючая ўлада, можна не разлічваць на чэсныя, справядлівыя вынікі.**

**Так што годзе, хлопцы, спаць, атакуйце Ярмошыну! А калі хочаце спаць, то сыдзіце з палітычнага поля. А то атрымліваецца, што вы толькі падыгрываеце лукашэнкаўскаму рэжыму, а калі сказаць больш катэгарычна, — кансервуеце яго на доўгія часы.**

**Сцяпан КАВАЛЁЎ,**
**выбаршчык.**

*Мінск.*

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

## Лохотрон

Многие пенсионеры держат сбережения в банках. Эти деньги банки выдают в виде кредитов под проценты их же детям и внукам. Выходит, проценты по вкладам пенсионерам платят не банки, а их самые близкие родственники. Вот какой обман экономики и зрения. Вот какой своеобразный лохотрон.

**Валерий БЫСОВ,**
**ветеран труда.**

*г.Кричев.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

## З кабінета ў кабінет

**Проста не магу паверыць, што былыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў сышлі на пенсію. Мне падаецца, мы ўжо нейкае падабенства савецкай сістэмы выбудавалі, калі кожны які-ніякі начальнічак да самага апошняга дня на гэтай зямлі трымаецца за пасаду і толькі пераходзіць з кабінета ў кабінет.**

**Вось ці сышоў на пенсію наш былы дэпутат Анатоль Глаз? А можа, ён выканаў сваё абяцанне вярнуцца працаваць "на зямлю"?**

**А.Круглікава,**
**г.Бабруйск.**

Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Анатоль Ціханавіч Глаз, былы першы сакратар Бялыніцкага райкама партыі, былы старшыня Бабруйскага райвыканкама, былы намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама, на пенсію не сышоў. І абяцанне пайсці працаваць "на зямлю" не выканаў. Зараз ён узначальвае прадстаўніцтва кампаніі "Белдзяржстрах" па Магілёўскай вобласці.

ПЫТАННЕ-АДКАЗ

***Ці праўда, што "Беларусбанк" прыпыніў выдачу крэдытаў на набыццё жылля?***

***Уладзімір Гладун,***
***Пінск.***

# Грошы скончыліся



Сітуацыя такая. 250 мільярдаў рублёў, якія "Беларусбанк" запланаваў выдзеліць на працягу 2012 года тым беларусам, якія бяруць крэдыты на будаўніцтва жылля, скончыліся. Учора "Беларусбанк" паведаміў, што 15 лістапада запланаваны аб'ём фінансавання быў перавышаны і таму банк прыпыніў выдачу крэдытаў на набыццё жылля.

Выключэнне зроблена толькі для шматдзетных сем'яў, якія маюць трох і больш непаўналетніх дзяцей, — яны па-ранейшаму могуць разлічваць на льготныя банкаўскія крэдыты. З усімі астатнімі, хто таксама мае права будавацца на льготных умовах (пад 20 і 19 працэнтаў гадавых), "Беларусбанк" дамовы пакуль заключаць не будзе. Як не змогуць атрымаць крэдыты і тыя беларусы, што будуюць жыллё не на льготных умовах.

Трэба адзначыць, што на агульных умовах будаваць жыллё складана. "Беларусбанк" выдае крыдыты для такіх грамадзян тэрмінам на 15 год і пад даволі высокі працэнт: стаўка рэфінансавання Нацбанка на дату заключэння крэдытнага дагавора + 3 працэнты гадавых. На пачатку года гэта складала 46 працэнтаў! Сёння было б значна меней — 33 працэнты, бо стаўка рэфінансавання на працягу года спаўзла з 43 да 30 працэнтаў. Але зараз, як высветлілася, такі дагавор заключыць ужо немагчыма.

Праўда, у "Беларусбанку" паведамляюць, што перапынак у выдачы крэдытаў на будаўніцтва жылля — часовы, толькі да канца 2012 года. Акрамя таго, у банку абяцаюць разгледзець заявы грамадзян на выдачу крэдытаў, прынятыя да 16 лістапада 2012 года.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЭХА

# Толькі дзяржава…

Людзі добрыя!

Няўжо не зразумела, што апошні цвік у дамавіну беларускай мовы быў забіты, калі самы высокі начальнік заявіў, што на беларускай мове нічога разумнага выказаць немагчыма?

Даўно сказана, што рыба пачынае гніць з галавы. Ці чулі вы што-небудзь негатыўнае ў бок рускай мовы ад расійскіх улад? А хіба ж ёсць і ў "великом и могучем". Расія, наадварот, плануе нават гастарбайтараў экзаменаваць на прадмет ведання рускай мовы.

Лічу, што апошні цвік з труны беларускай мовы толькі ўлада і можа выцягнуць. Для гэтага патрэбна:

1. каб кожны чыноўнік валодаў беларускай мовай хаця б на ўзроўні сярэдняй школы;

2. каб усё справаводства ў краіне вялося на беларускай мове;

3. каб усе масавыя мерапрыемствы праводзіліся на беларускай мове;

4. каб усе шыльды, аб'явы, наглядная агітацыя былі на нацыянальнай мове.

Магчыма, штосьці я ўпусціў, але і гэтага будзе дастаткова, каб па краіне з'явіліся беларускамоўныя класы, школы, дзеці і бацькі, якія разумеюць, навошта патрэбны і беларускамоўная адукацыя, і родная мова наогул.

**М.З.ЦІТОЎ.**

*г.Орша.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Хай і сэр, і пэр едуць к нам цяпер

**Напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі для мінскіх міліцыянтаў арганізоўваюць курсы па вывучэнні англійскай мовы.**

*Хакею ў нас — не тайна гэта —*
*І так увагі аж зашмат.*
*А тут каманды ўсёй планеты*
*Прыедуць на чэмпіянат.*
*Дык абавязак для краіны —*
*Сустрэць-прывеціць іх як след.*
*Аж здрыгануцца тут павінны*
*Ад захаплення белы свет.*
*Усе прыняць належыць меры*
*З нагоды важнае такой.*
*І нават міліцыянеры*
*Зрабіць рашылі ўнёсак свой.*
*І ці загад, ці пастанову*
*Начальства выдала якраз:*
*— Англійскую вучыце мову,*
*Каб госці разумелі вас!*
*Ды непасільнаю нагрузкай*
*Загад той мог бы стаць няўзнак,*
*Бо нават роднай, беларускай*
*Не могуць вывучыць ніяк.*
*Дык хто ж з іх па-англійску скажа?*
*Патрэбны курсы!*
*Сказ-другі*
*Няхай выкладчыкі са стажам*
*Ім утрамбуюць у мазгі.*
*І вечарамі, пасля службы*
*Яны сядалі за сталы.*
*Хадзілі ўсе: і хто нядуж быў,*
*І чын вялікі, і малы.*
*Ці добры плён дае вучоба?*
*Ці быў з карысцю кожны ўрок?*
*Магчыма, хтось зусім як чобат —*
*Яму не лезе мова ў клёк?*
*Пачуць адказы захацелі*
*Начальнікі, і быў загад:*
*На мову ў кожным райаддзеле*
*Праверыць асабовы склад.*
*Каб хоць крыху дайсці да толку*
*Даведацца, хто зух, хто пень,*
*Патрэбна па-англійску толькі*
*Размовы весці цэлы дзень.*
*Хаця б, прынамсі, між сабою.*
*Загад яшчэ і кару ўвёў:*
*За слова рускае любое*
*Выплочвай штраф — пяцьсот рублёў.*
*У кабінеты, туалеты*
*І ўвогуле ва ўсе куткі*
*Паставілі ў дзянёчак гэты*
*Для праслухоўвання "жучкі".*
*...У міліцэйскім райаддзеле*
*Ад самага пачатку дня*
*Службоўцы пёрамі скрыпелі,*
*І, бы ў магіле, — цішыня.*
*А зрэшты, у адным пакоі,*
*Там, дзе сядзелі "следакі",*
*Не вытрымалі ўсё-ткі двое*
*І "развязалі языкі".*
*Той сціплы дыялог, дарэчы,*
*Я слова ў слова правяду.*
*Адзін спытаўся пры сустрэчы*
*У сябрука:*
*— Хаў ду ю ду?**
*Падумаў над пытаннем крышку*
*Калега-міліцыянер,*
*Дадаткам зазірнуў у кніжку...*
*— О'кэй, — сказаў нарэшце, — сэр!*
*Іх штрафаваць ніхто не стане,*
*Бо мову знаюць — цераз край!*
*Тым болей што на развітанне*
*Абодва мовілі:*
*— Гуд бай!*
*У кабінетах, дзе з "Аховы"*
*Жанкі сядзелі, як грыбы,*
*Спярша не чулася ні слова —*
*Вады набралі ў рот нібы.*
*Але ж хіба маўчаць магчыма*
*Ім у адзінае гурме?*
*Засакаталі ўсё ж жанчыны*
*Пра ўсё, што мелася наўме.*
*Пад вечар атрымалі "ўзбучку",*
*"Заткнуў" начальнік кожны рот:*
*Займелі штрафаў — на палучку.*
*І не за месяц, а за год.*
*Яшчэ і ў самай большай зале*
*Ад ранку гоман-гул не гас:*
*Амапаўцы ў адным кагале*
*Тут тлумна бавілі свой час.*
*Яны заўжды напагатове,*
*На зборы трэ хвілінаў пяць...*
*Лацвей не на англійскай мове —*
*"Дубінак мовай" размаўляць.*
*Аднак у дзень адметны гэты*
*(Ну што паробіш — як назло!)*
*Не ладкаваліся пікеты,*
*Ніякіх шэсцяў не было,*
*Чамусьці плошчы апусцелі...*
*Таму лайдачылі яны,*
*І, мовіць так, дрыжэлі сцены*
*Ад рогату і гаманы.*
*Але не адчувалі страху*
*АМАПа слаўнага байцы:*
*Ніхто не выпіша ім штрафу*
*За мову дня напрыканцы.*
*У той вялікай самай зале,*
*Дзе мала крэслаў і сталоў,*
*Яны па-руску не сказалі,*
*Не вымавілі й пары слоў.*
*Чаму ж амапаўцам паблажка,*
*Хоць "распускалі языкі"?*
*У слоўніках тых слоў нямашка —*
*Адны з іх вуснаў мацюкі...*

* * *

*І самы час падвесці рыску...*
*Прыемна, што яны цяпер*
*Хоць слова скажуць па-англійску,*
*Каб зразумеў іх сэр ці пэр.*
*Таму няблага, што за парты*
*Міліцыянтаў сядзе раць.*
*Але спярша (і то не жарты)*
*І са сваім народам варта*
*Ім навучыцца размаўляць...*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 ЛІСТАПАДА 2012 г.



Фота Д.Кунстадтара

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

# Максім Танк, віцэ-пракурор Дамінік Пятроўскі і графолагі

*Прысвячаю Алене Глагоўскай*

*У сваім нарысе “Розніца толькі ў смаку віна” (“Народная Воля” №№145—146, 18 верасня 2012 г.) я апавядаў пра Максіма Танка як пра аўтара лірычных шэдэўраў і як пра грамадскага дзеяча, душа якога не губляла святло.*

*Я гавару пра сталага Максіма Танка.*

*У гэтым жа нарысе гаворка пойдзе пра заходнебеларускага юнака, камсамольца Яўгена Скурко, які працаваў у падполлі, не прымаў тагачасную польскую дзяржаву і толькі-толькі станавіўся паэтам Максімам Танкам.*



Максім Танк (з картатэкі следчага адзялення дэфензівы). 1932 г.

## 1. Турмы Пілсудскага — не турмы Сталіна...

Вядома, дзяржава за сваё непрыняцце можа заплаціць і турмой!

Малады Максім Танк адчуў гэту плату ў дастатковай меры, таму няздзіва, што станаўленне яго характару пераважна адбывалася ў віленскай турме Лукішкі.

Малады Максім Танк (вязень Яўген Скурко) прайшоў праз допыты, пракурорскую апеку, акруговыя і апеляцыйныя суды і (таксама вельмі цікава!) праз паліцэйскае сіта *графалогіі*.

У турме ён пісаў грыпсы (нататкі з недазволеным зместам!); грыпсы патаемна перадаваліся з камеры ў камеру, і турэмная адміністрацыя ўсё рабіла дзеля таго, каб выкрыць аўтараў гэтых ананімных рукапісаў.

У 1933—1934 гадах Яўген Скурко ў ліку першых падазраваўся менавіта як аўтар грыпсаў.

27 траўня 1933 года яго арыштавалі (другі раз!) і змясцілі на Лукішках, у 1-м корпусе, у камеры 89, у якой з 8 верасня 1932 года знаходзіўся ягоны сябар Ян Гарэлічонак.

16 ліпеня Яўген Скурко падаў заяву на імя судовага следчага 1-й Віленскай акругі з просьбай дазволіць яму выпісаць газету “Глос Вільна”.

Бачыце, турмы Язэпа Пілсудскага — гэта не турмы Язэпа Сталіна.

У турмах Пілсудскага вязні маглі выпісваць сабе газеты!

Цікава, чаму менавіта “Глос Вільна”, а не якое-небудзь іншае выданне захацеў чытаць вязень 89-й камеры?

Мяркую, прасіў не “Глос Вільна” Араҳоўскага (палітычна-грамадскі тыднёвік, які існаваў у 1920-я гады); прасіў выданне Вітальда-Зыгмунта Гурнісевіча — штодзённую незалежную (!) ілюстраваную газету, якая выходзіла ў пачатку 1930-х.

Так, свой кірунак выданне Гурнісевіча вызначала як незалежны, аднак жа кірунак гэты быў непрыхавана санацыйны.

На чатырох старонках (пазней і на шасці) вялікага фармату (як у газет “Слова” ці “Кур’ер Віленскі”) і, сапраўды, з ілюстрацыямі — газета Гурнісевіча пры першым гартанні, кажучы сённяшняй мовай, рабіла ўражанне гламурнага выдання.

Зазначу: такая думка складвалася толькі пры гартанні, а не чытанні.

На сваіх старонках часта змяшчала пра сябе кідкую рэкламу: “Глос Вільна” — самая папулярная газета на ўсходніх землях!”

“Самая папулярная”!

І, мусіць жа, самая танная — адзін яе паасобнік каштаваў 10 грошаў.

Для параўнання: экзэмпляр таго ж “Кур’ера Віленскага” меў цану 20 грошаў, а, скажам, за літр малака ў той час плацілі 40 грошаў...

Газета Гурнісевіча друкавалася ў Віленскай каталіцкай друкарні Казіміра Ляўковіча, што ў Літарацкім завулку, 11, а рэдакцыя знаходзілася на Вастрабрамскай, 17...

Такія “знешнія” дадзеныя, а што да сутнасці, то “Глос Вільна” шмат пісаў пра кіно, змяшчаў партрэты Грэты Гарба ды іншых славутых тагачасных акцёраў, аднак жа (у адрозненне ад “Кур’ера Віленскага”) нічога не паведамляў пра беларускае жыццё.

Нібыта ў Вільні ніякіх беларусаў і не было!

Газета вяла спрэчкі з Цатам-Мацкевічам, рэдактарам “Слова”, і нападала на камуністаў.

Наогул жа, “Глос Вільна” быў антыкамуністычны, але найболыш антысеміцкі!

Юдафобскія матэрыялы (часам проста жахлівыя!) шырокай і глыбокай плынню разліваліся амаль па ўсіх яго нумарах.

Пан Гурнісевіч і ягоныя журналісты, здаецца, ніколі не стамляліся ў сваім праведным і мэтаімклівым змаганні з “хлуслівымі” *людзьмі суботы* — кідаліся ў сварку з сіяніцкім “Нашым Пшэглёндэм”, узвышалі хрысціянскую этыку над іудаізмам і прадбачвалі ягоную пагібель (канешне, у міжнародным маштабе), а таксама ж трывожыліся: польскія суды і адвакатура ажно на 80% складаюцца з гэтых самых *людзей суботы*!

Пан Гурнісевіч і ягоныя журналісты цешыліся: аферыстка Хава Раігх будзе выселена з Польшчы! — і жахаліся: у ліпені 1932 года ў Львове (на вуліцы Лычакоўскай, 60) габрэі пабілі лістаношу за тое, што ён у суботу патрабаваў распісацца за дастаўленую дэпешу.

І, сапраўды, “Глос Вільна” ў сваім антысеміцкім пафасе быў нястомны, ён паспяваў скрозь — то высмейваў рытуальнае абмыванне дзяўчат у мікве, а то звяртаў увагу Таварыства апекі над жывёламі, што віленскія шлёмы мучаць коней на вуліцы Азёрнай, якая з рыбнага рынку вельмі крута падымаецца на вуліцу Бакшта — коні насілу выцягваюць на Бакшта вялізныя вазы з марожанай рыбай, а шлёмы неміласэрна хвошчуць іх пугамі.

Вядома ж, віленскія беларусы, летувісы, палякі ці тыя ж стараверы ніколі сваіх коней пугамі не хвасталі!

І, само па сабе, хрысціяне ніколі не падманвалі дзяўчат, а вось нейкі Хаім Давідсан (калі верыць “Глосу Вільна”!) удаваў з сябе пазнанскага графа і, уводзячы ў зман даверлівых варшаўскіх паненак, завабліваў іх у падазроныя памяшканні і там рабаваў іх...

“Глос Вільна” мужна папярэджваў сваіх чытачоў: у Польшчы жыве найбольш, чым дзе ў Еўропе, габрэяў — 3 мільёны 125 тысяч. Маўляў, пільнымі будзьце!

Спасылаючыся на нямецкую (значыць, дакладную!) статыстыку, газета нагадвала: у свеце каля 15 мільёнаў габрэяў; у Еўропе — 9 мільёнаў 785 тысяч; у Савецкім Саюзе — 2 мільёны 870 тысяч; у Румыніі — 800 тысяч; у Нямеччыне — 585 тысяч; у Чэхаславакіі — 380 тысяч; у Брытаніі — 300 тысяч; у Аўстрыі — 220 тысяч; у Летуве — 167 тысяч; у Францыі — 160 тысяч; у Галандыі — 120 тысяч; у Латвіі — 96 тысяч; у Грэцыі — 73 тысячы; у Югаславіі — 67 тысяч; у еўрапейскай частцы Турцыі і Балгарыі — 50 тысяч; у Італіі і Бельгіі — 45 тысяч; у Швейцарыі — 18 тысяч; у Гданьску — 9 тысяч; у Швецыі — 6 тысяч; у Даніі — 5,5 тысячы; у Эстоніі — 5 тысяч; у вугальным басейне Саар — 4,5 тысячы; у Іспаніі — 3 тысячы; у Партугаліі — 2,5 тысячы; у Фінляндыі — 1 тысяча 800; у Люксембурзе — 1 тысяча 750; у Нарвегіі — 1 тысяча 450...

З пункту гледжання газеты, найбольш пашанцавала, вядома ж, нарвежцам, бо ў іх толькі паўтары тысячы габрэяў, — і то без пяцідзесяці душ!

Але самую запамінальную юдафобскую публікацыю Гурнісевіч змясціў у 246-м нумары за сераду 14 верасня 1932 года.

У гэтым нумары можна прачытаць, што ў адным з паморскіх мястэчак гаспадары на сваіх крамах напісалі: “Жыдам уваход забаронены!”

Пакрыўджаныя габрэі прасілі бургамістра пакараць крамнікаў, аднак жа галава мястэчка даў такую водпаведзь:

— У гэтым учынку хрысціян не бачу ніякага злачынства!

Пакрыўджаныя настойвалі на сваім, тады бургамістр параіў:

— А вы на сваіх крамах яшчэ большымі літарамі напішыце: “Палякам уваход забаронены!”

Учынак паморскіх крамнікаў “Глос Вільна” назваў патрыятычным і нават пажадаў, каб надпісы “Жыдам уваход забаронены!” з’явіліся на крамах па ўсёй Віленшчыне.

Як бачна, у нянавісці да габрэяў, як і ў нянавісці да камуністаў, “Глос” Гурнісевіча бег па віленскім бруку нават паперадзе Гітлера...

І вось такую газету (у дадатак яшчэ і абыякавую да беларускага жыцця!) захацеў выпісаць лукішскі вязень Яўген Скурко, у душы якога не было і кроплі юдафобства.

Дык чаму ж менавіта гэта выданне прагнуў мець у вязніцы?

Магчыма, такое заданне атрымаў ад турэмнага камітэта, а магчыма, таму, што “Глос Вільна” быў таннейшы за іншыя віленскія газеты...

А яшчэ можа быць і такі адказ: выданне Гурнісевіча шмат пісала пра кіно, а Максім Танк, як вядома, у маладыя гады быў вялікім прыхільнікам кіно!

Чытаць за кратамі пра любімы род мастацтва — значыць, мець у турме хоць нейкую асалоду!

Аднак жа напрошваецца і такое тлумачэнне (назаву яго дыпламатычным): выпісваючы санацыйную, праўрадавую газету, вязень Яўген Скурко хацеў увесці ў зман адміністрацыю і тым самым аблегчыць свой лёс — маўляў, глядзіце, панове, жадаю чытаць ваша выданне; выходзіць, не такі ўжо я і “выўратовец”.

Аднак жа, здаецца, начальства не паддалося гэтай хітрасці.

## 2. Матэрыял для графолагаў...

Віцэ-пракурор XIII Віленскага раёна Дамінік Пятроўскі скарыстаў заяву Яўгена Скурко... як дапаможны матэрыял для графолагаў.

7 лістапада 1933 года Віленскі акруговы суд засудзіў Яўгена Скурко на шэсць гадоў турмы, аднак жа юнаку пашанцавала — апеляцыйны суд скасаваў гэты вырак, і 1 траўня 1934 года юнак выйшаў на волю.

Праз два тыдні, 13 чысла, яго аднакамернік Ян Гарэлічонак падаў усё таму ж Д.Пятроўскаму сваю заяву, у якой прасіў дазволіць яму падпісацца на газету “Слова” або на “Газету Варшаўску”.

У дзённіку “Лісткі календара” 20 лютага 1935 года Максім Танк пісаў пра сябра:

“...Вечарам пайшоў да Мажуцаў. Сустрэў у іх бацьку Гарэлічонка. Стары бедаваў, што сына яго на Лукішках зусім скавала экзэма. Ходзіць, казаў, увесь абкручаны бінтамі, толькі вочы блішчаць. З Гарэлічонкам я некалькі месяцаў сядзеў у 89-й камеры. Ён ужо тады быў цяжкахворы. Ад сырых і сцюдзёных астрожных муроў у нас ва ўсіх балелі і пухлі суставы пальцаў...”

Дык вось, паэт апынуўся на волі; Я.Гарэлічонак (застаўшыся ў турме) напісаў заяву, а ў лукішскіх вязняў Іцка Фейгельмана, Давыда Фейгенберга і Браніслава Лагуна турэмныя наглядчыкі А.Трухан і Т.Бараноўскі выявілі грыпсы — усё тую ж рукапісную недазволеную літаратуру.

14 траўня 1934 года Д.Пятроўскі даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела расследаваць справу №.XIII.DS.279/34 — справу Браніслава Лагуна і Яўгена Скурко.

Грыпс, выяўлены ў Б.Лагуна, віцэ-пракурор адразу ж звязаў з асобай паэта і загадаў: 1. Дапытаць у якасці сведкі стражніка, які знайшоў грыпс; 2. Даследаваць грыпс; 3. Узяць узор почырку ў падазраванага Яўгена Скурко; 4. Правесці графалагічную экспертызу, каб вызначыць, ці напісаны гэты грыпс Яўгенам Скурко...

Каб ход экспертызы зрабіць лягчэйшым, Д.Пятроўскі прыклаў да свайго распараджэння заяву ад 16 ліпеня 1933 года — так, тую самую, у якой паэт прасіў дазволіць яму выпісаць “Глос Вільна”.

Пракурорская выснова была простая: калі падазрэнне пацвердзіцца, тады Яўгена Скурко затрымаць, даставіць да судовага следчага 2-й Віленскай акругі, дапытаць і ўжыць меру стрымання — часовы арышт на два месяцы...

Калі Д.Пятроўскі атрымаў заяву Я.Гарэлічонка, то настрой у яго відавочна змяніўся; ён пасылае кіраўніку Віленскага следчага аддзела новы ліст, якім часткова скасоўвае сваё распараджэнне адносна затрымання Яўгена Скурко і пераключае ўвагу следчага аддзела на вязня Я.Гарэлічонка.

Д.Пятроўскі загадвае ўзяць узор почырку ў Я.Гарэлічонка і правесці графалагічную экспертызу, каб даведацца, ці не ён аўтар рукапісу “Дзень 1-га мая” (гэты грыпс канфіскаваны быў у Б.Лагуна); да свайго загаду, зноў жа дзеля паскарэння ходу экспертызы, віцэ-пракурор прыклаў вышэйзгаданую заяву Я.Гарэлічонка.

## 3. У акцыях «Грамады» бралі ўдзел габрэі...

Мяркуючы па ўсім, Д.Пятроўскі — асоба цікавая, прынамсі, для нашых гісторыкаў.

Згодна з анкетай: сын Дамініка і Анэлі, каталік, несудзімы (!), жыхар дома 2, што на віленскім пляцы Магдалены, а перш за ўсё ён — нястомны служка закону і майстар апавядаць...

У сакавіку 1928 года, маючы адно 28 гадоў, быў кіраўніком аддзела бяспекі Віленскага ваяводства і ў якасці сведкі выступаў на “Працэсе 56-ці”.

На сёмы дзень гэтага знакамітага разбору, у панядзелак 12 сакавіка, заявіў:

“...праграма “Грамады” заклікае да сацыяльных бітваў... “Грамада” — з’ява камуністычная і мае міжнародны характар... Паміж статутамі кампартыі і “Грамады” шмат агульнага! Скарыстоўваючы лозунг Камінтэрна і Крэстінтэрна “Тварам да вёскі!”, трэці з’езд польскай кампартыі пастанавіў арганізаваць беларускі вызваленчы рух! А КПЗБ усё зрабіла, каб знішчыць групу Ярэміча і Рагулі і падтрымаць “Грамаду”...”

Паясню пра згаданую групу.

Беларускія палітыкі дэпутаты польскага сейма Фабіян Ярэміч і Васіль Рагуля ў 1925 годзе стварылі антыкамуністычную партыю “Беларускі сялянскі саюз”.

Вядома, новая партыя была варожа ўспрынята камуністамі, а таксама грамадоўцамі, якія, на жаль, у большасці сваёй знаходзіліся пад уплывам чырвонага Менска.

Ці не кожны дзень чытаючы агентурныя звесткі, Д.Пятроўскі шмат ведаў пра дзейнасць беларускіх арганізацый і з нейкага моманту тады, 12 сакавіка 1928 года, выступаў ужо як эксперт.

На гэта звярнуў увагу адвакат Смяроўскі; ён так і заявіў суду, што сведка Д.Пятроўскі прамаўляе менавіта як эксперт, а не як сведка, і што абарона сама здатная прааналізаваць праграму “Грамады”.

Суд, параіўшыся, не прыняў пратэст адваката, і Д.Пятроўскі працягваў:

“...”Грамада” спрыяе злачынствам... У пяці паветах Віленскага ваяводства за бандытызм узята пад варту 257 асоб. Цэнтральны Камітэт “Грамады” тлумачыў павятовым сваім камітэтам, што злачынствы патрэбны дзеля справы!.. А яшчэ “Грамада” засылала сваіх агітатараў у войска і тым самым спрабавала дэмаралізаваць армію...”

Не баючыся інтэлігенцкіх папрокаў у юдафобіі, Д.Пятроўскі страшыў публіку і тым, што ў акцыях “Грамады” бралі ўдзел габрэі.

З вуснаў кіраўніка аддзела бяспекі ляцела:

“...на мітынгу ў віленскім кінатэатры “Геліёс” 8 жніўня 1926 года пасол Тарашкевіч выступіў з антыдзяржаўнай прамовай. Жыды-камсамольцы зладзілі Тарашкевічу авацыю і рушылі ў калоне па Вільні, спяваючы па-расійску “Інтэрнацыянал”...”

## 4. Перайшоў польска-беларускую мяжу...

Д.Пятроўскі ўмеў нагнаць страху, і, мяркую, Максім Танк зусім невыпадкова згадаў яго ў самым пачатку (!) “Лісткоў календара”:

“Мне і сённяшні дзень трэба было б вырваць і знішчыць, хоць і шкада, бо ён быў запоўнены незвычайнымі сустрэчамі, думкамі, марамі. Але каб усё гэта не паслужыла пачаткам для новага опуса пана пракурора Д.Пятроўскага...”

Гэта радкі за 7 студзеня 1935 года, а 27 траўня 1934 года Д.Пятроўскі ў прысутнасці старшага пастарунковага следчай службы Тадэвуша Пладоўскага ўзяў у паэта, зноў падазраванага, узор почырку.

Пратакол вёў Т.Пладоўскі.

Пасля біяграфічных звестак Яўген Скурко ўласнаручна аднатаваў, што ніколі не належаў да гуртка Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры (гурток дзейнічаў у Вілейскім павеце), а таксама ж ніколі не быў у мястэчках таго ж павета Параф’янаве і Даўгінаве.

Пэўна ж, і Д.Пятроўскі, і Т.Пладоўскі ведалі, што падазраваны не ўваходзіў у гурток згаданага інстытута (антыкамуністычнай арганізацыі!), аднак жа спыталі — для выгляду і з мэтай папоўніць калекцыю ўзораў почырку!

А што да названых мястэчак, то заўважу: восенню 1932-га паблізу Даўгінава Яўген Скурко перайшоў польска-беларускую мяжу, а Параф’янава на той час было не ў Вілейскім, а ў Дзісенскім павеце...

## 5. Эксперт з вуліцы Кошыкавай...

Д.Пятроўскі падключыў да работы і пшадоўніка Пятра Блесмановіча — таксама ж невыпадковага службоўца (8 сакавіка 1932 года старшы пастарунковы следчай службы П.Блесмановіч дакладваў па камандзе пра камсамольскую дзейнасць Яўгена Скурко)!

І вось П.Блесмановіч, ужо пшадоўнік следчага аддзела, выконваючы пракурорскае даручэнне, паклікаў графолага Ігнацы-Леана Другаля і даў яму на вывучэнне ананімныя рукапісы — “Дзень 1-га мая” (на польскай мове), “З газеты. Дварчанін...” (таксама на польскай) і “Як бог гуляў на вечарыне” (па-беларуску).

У пратаколе падкрэслена, што грыпс “Дзень 1-га мая” напісаны чорным атрамантам на шматку паперы ў клетку.

У сваёй “апініі” Другаль адзначыў: грыпсы накрэслены вопытнай у пісарстве рукой, якая аднолькава ўпэўнена можа чытэльна і прыгожа выводзіць лацінскія і кірыліцкія літары.

Почырк старанна стылізаваны.

Тэмп крэслення вольны, графіка пісьмовых знакаў своеасаблівая, бо націск у пісьме “скача”, ён даволі нераўнамерны — асобныя літары пісаны слабым націскам пяра, іншыя — нечакана моцным!

Другаль звярнуў увагу і на такую асаблівасць: гарызантальныя рыскі ў рукапісах добра пазначаны, а рыскі вертыкальныя і кропкі ледзьве бачныя; літары ж выведзены не адным неадрыўным рухам, а некалькімі рухамі — з адрывам пяра ад паперы.

Параўнаўшы графіку турэмных запісак з рукой Яўгена Скурко, графолаг выснаваў: тэхніка, дынаміка, такт почырку і напісанне асобных літар — аднолькавыя!

Нахіл почырку, частотнасць пропускаў паміж радкамі, структура і памер літар таксама аднолькавыя!

У якасці прыкладу падаў пісьмёны “M”, “d”, “D”, “K”, “k”, “N”, “W”, а таксама доўгія літары “g”, “y”, “p”, літары з гарызантальнымі рыскамі “l”, “t” і форму акругленняў у пісьмёнах “o”, “a”, “d”.

Як бачна, Яўгену Скурко не пашанцавала, яго, як тады казалі, злавілі на гарачым!

Шчыра шкадуючы юнака, не магу, дарэчы, не здзівіцца майстэрству і нейтральнасці, бесстароннасці Ігнацы-Леана Другаля!

Графолаг з вуліцы Кошыкавай (у Вільні жыў на Кошыкавай, 14, кв.1) трымаўся дакладнасці!

Скажам, калі Ян Гарэлічонак не пісаў грыпсаў, то Другаль у яго почырку ўбачыў толькі прыблізнае падабенства з почыркам грыпсаў.

А такое падабенства можна было ўбачыць у манеры пісьма любога вязня, бо грыпсы свядома стылізаваліся пад нейкую агульнаканцылярскую графіку!

Каб у яго заказчыкаў (Д.Пятроўскага і П.Блесмановіча) канчаткова адпалі сумненні адносна ўдзелу Я.Гарэлічонка ў стварэнні падрыўной літаратуры, Другаль давёў, што ў ананімных рукапісах “Дзень 1-га мая”, “З газеты. Дварчанін...”, “Як бог гуляў на вечарыне” і ў аўтографах Яўгена Скурко напісанне літар “а”, “о”, “d” пачынаецца пераважна з левага боку знака, а ў Я.Гарэлічонка пераважна з правага!

2 ліпеня 1934 года графолаг заключыў: турэмныя запіскі накрэслены рукой Яўгена Скурко, і ў той жа дзень на імя Д.Пятроўскага падаў заяву, у якой прасіў заплаціць яму за работу дванаццаць злотых.

Назаўтра, 3 ліпеня, П.Блесмановіч прапанаваў даследаваць пяць рукапісаў са справы №.XIII.DS.105/34 (справа І.Фейгельмана і Д.Фейгенберга): 1. “Мы пажару сусветнага полымя...” (на расійскай мове), 2. “Слязамі заліты свет бязмежны...” (таксама на расійскай), 3. “Як бог гуляў на вечарыне”, 4. “З газеты. Дварчанін...”, 5. Спіс турэмнай яды (на расійскай мове).

Прысутнічала пратакалістка Я.Падгайская.

Параўнаўшы пяць рукапісаў з пробамі пісьма згаданых вязняў, Другаль выснаваў: грыпсы крэсліў не адзін чалавек.

У песні “Мы пажару сусветнага полымя...” і ў вершы “Слязамі заліты свет бязмежны...” эксперт убачыў адну руку.

Паэма “Як бог гуляў на вечарыне” і тэкст “З газеты. Дварчанін...” (адмысловец яшчэ раз пераканаўся) маюць характар почырку Яўгена Скурко.

А набор турэмных страў (графолаг зрабіў дапушчэнне) знатаваны Д.Фейгенбергам.

Другаль заўважыў: пісьмо І.Фейгельмана і Д.Фейгенберга вольнае ад стылізацыі, ад наўмыснага перакручвання літар; вязням уласцівы той вуглаваты почырк, які ад прыроды ўласцівы габрэям...

І гэтым разам Ігнацы-Леан Другаль адпрацаваў як мае быць і ў той жа дзень, 3 ліпеня, склаў прашэнне на дзесяць злотых.

Дзве ягоныя просьбы Д.Пятроўскі разгледзеў 13 верасня (праз два месяцы і дзесяць дзён) і пастанавіў: за экспертызу па справе №.XIII.DS.279/34 заплаціць восем злотых (Другаль хацеў атрымаць дванаццаць!), а за экспертызу па справе №.XIII.DS.105/34 — дзесяць злотых; у той жа пастанове Д.Пятроўскі прасіў старшыню Віленскага акруговага суда распарадзіцца адносна аплаты...

Дарэчы, калегі Другаля мелі самыя розныя ганарары.

Віленскі графолаг Нікадэм Качор з вуліцы Дамініканскай, 8 займаўся мікрафатаграфіяй, а ў сферы графалогіі і экспертыз з’яўляўся прысяжным судовым экспертам.

Дык вось, 16 красавіка 1932 года пан Качор даследаваў почырк Б.Тарашкевіча і за дзве гадзіны працы папрасіў у суддзі Я.Булгака чатыры злотыя...

## 6. «За Польскую Савецкую Рэспубліку!»

10 ліпеня 1934 года старшы пастарунковы следчага аддзела дзяржаўнай паліцыі места Вільні Язэп Пясецкі і, як сведкі, супрацоўнікі следчага аддзела Апалінары Мальчэўскі і Ігнацы Бучкоўскі даследавалі грыпс “Дзень 1-га Мая”.

Толькі адзін гэты грыпс.

Можна падумаць, што такім выбарачным кантролем правяралася праца Другаля.

Зрэшты, ні Я.Пясецкі, ні ягоныя функцыянеры графолагамі не былі, іхняя “экспертыза” толькі да таго і звялася, што тэкст лістоўкі (камуністычны і з гэтай прычыны антыдзяржаўны) быў акуратна без ніякіх каментарыяў перанатаваны ў пратакол ад першага сказа да апошняга.

Выйшла ад рукі тры старонкі і яшчэ на чацвёртай — чатырнаццаць радкоў.

Вось пачатак: “Дзень 1-га Мая, як дзень міжнароднага змагання пралетарыяту і салідарнасці, быў упершыню абвешчаны на 1-ым кангрэсе 2-га Інтэрнацыянала ў Парыжы ў 1889 годзе...”

А вось апошнія радкі: “Супраць фашыстоўскай дыктатуры! За Польскую Савецкую Рэспубліку! ... Пад такімі лозунгамі будзе змагацца пралетарыят усёй краіны пад сцягамі Кам. Партыі...”

Такая палітграмата, пэўна ж, стварала вязням святочны настрой.

Цікава адзначыць: на першай старонцы лістоўкі ў правым ніжнім кутку рука невядомага чыноўніка вывела алоўкам прозвішча “Лагун” — як напамін аб тым, у каго быў знойдзены недазволены тэкст...

Аўтарства і гэтага грыпса таксама прыпісалі Яўгену Скурко — словам, для абвінавачання матэрыялу хапала.

## 7. Фейгельман і Фейгенберг не могуць быць абвінавачаны...

20 жніўня 1934 года юнака арыштавалі, а праз два дні ён зноў апынуўся на Лукішках.

Праз тры тыдні, 15 верасня, Д.Пятроўскі падпісаў пастанову, у якой сказана, што па выніках папярэдняга следства дакладна ўстаноўлена: грыпсы напісаны Яўгенам Скурко; Б.Лагун, Я.Гарэлічонак, І.Фейгельман і Д.Фейгенберг не могуць быць абвінавачаны ў напісанні згаданых падбухторных рукапісаў, таму справу адносна іх трэба спыніць праз адсутнасць доказаў віны.

Вядома ж, на кожным допыце Яўген Скурко не забываў гаварыць, што да выяўленых ананімных рукапісаў не мае ніякага дачынення, аднак жа з Лукішак яго не выпусцілі і 5 снежня 1934 года даставілі ў Віленскі акруговы суд!

Пракурор Ежы Ячыноўскі падтрымаў абвінаваўчы акт Д.Пятроўскага і прасіў суд пакараць вязня Яўгена Скурко.

Дарэчы, юнак абараняў сябе сам і ў якасці адваката зноў жа заявіў, што грыпсаў не пісаў і не распаўсюджваў іх, і наогул пісаць іх не мог, бо ў камеры не меў *атраманту*.

Спаслацца на брак чарніла — простая і цудоўная лінія абароны!

Пэўна ж, сваёй прастадушнасцю яна зрабіла ўражанне на суддзяў, і яны палічылі віну Яўгена Скурко недаказанай і апраўдалі яго.

Пяты пункт судовага абгрунтавання гаварыў:

“...пасля азнаямлення з рукапісамі і параўнання іх з почыркам падсуднага Скурко суд вызначыў, што паміж прадстаўленымі тэкстамі і аўтэнтычным почыркам Скурко існуюць значныя адрозненні...”

Паэту зноў пашанцавала, бо дастаткова адно супаставіць тэкст антырэлігійнай паэмы “Як бог гуляў на вечарыне” з любым іншым ягоным рукапісам, і можна цвёрда сказаць: гэта адна рука!

Графолаг Ігнацы-Леан Другаль сумленна зарабіў свае 18 злотых, у яго прафесійнасці сумнявацца не варта, але суддзі яму не захацелі паверыць.

Чаму?

Думаю, пашкадавалі падсуднага: маладога, прыгожага, з добрай польскай мовай!

Перад імі стаяў бландзін з блакітнымі вачыма. Кінагерой!

Паэт — няхай сабе і беларускі...

А галоўнае — адчайны і смелы, і гэта, як мне здаецца, спадабалася суддзям.

Але такі падыход да справы не спадабаўся пракурору Ячыноўскаму, і ён у кароткай запісцы папярэдзіў суддзяў, што будзе падаваць на апеляцыю.

Ячыноўскі даводзіў у сваёй апеляцыі, што рашэнне акруговага суда заснавана толькі на зрокавым параўнанні грыпсаў з почыркам Яўгена Скурко і супярэчыць заключэнням графолага Другаля.

Нават калі суд, пісаў Ячыноўскі, і ўбачыў пэўныя адрозненні паміж пісьмом грыпсаў і аўтэнтычным почыркам падсуднага і ўзяў пад сумненне меркаванне Другаля, то для больш дакладнага высвятлення справы патрэбна было выклікаць яшчэ аднаго эксперта, кандыдатура якога задаволіла б суд, і на падставе думкі гэтага эксперта і трэ было выносіць вырак...

## 8. Бжэскі з вуліцы Завальнай...

Як бачна, пазіцыя слушная, таму апеляцыя была прынята, і 2 студзеня 1935 года на ёй з’явілася чыноўная віза: залучыць да справы 49-гадовага эксперта Мечыслава Бжэскага.

М.Бжэскі жыў у Вільні (Завальная, 11, кв.6), служыў канцылярыстам у апеляцыйным судзе, хадзіў у рэфармацкую царкву і, вядома ж, не меў судзімасці.

Трэба сказаць, што яму даводзілася вывучаць почырк не толькі Максіма Танка, аднак жа і Браніслава Тарашкевіча.

Як і Д.Пятроўскі, каліграф М.Бжэскі таксама выступаў на “Працэсе 56-ці”.

У чацвер 26 красавіка 1928 года ён заявіў у Віленскім акруговым судзе, што Б.Тарашкевіч з’яўляецца аўтарам некалькіх ананімных антыдзяржаўных рукапісаў.

Вядома ж, Б.Тарашкевіч адмовіўся ад аўтарства.

Тады абарона папрасіла выклікаць дадатковага эксперта.

Суд просьбу абароны адхіліў, хаця пракурор (што цікава!) і не пярэчыў абароне, толькі зазначыў, каб новы эксперт прааналізаваў усе тыя рукапісы, якія даследаваў М.Бжэскі.

Праз некалькі дзён, у панядзелак 30 красавіка 1928 года, М.Бжэскі зноў прысутнічаў на грамадоўскім працэсе, адказваў на пытанні суддзяў, даводзіў слушнасць свайго заключэння, і (па-іншаму і быць не магло!) Б.Тарашкевіч зноў аспрэчыў яго экспертызу.

Наогул жа М.Бжэскага можна назваць знаўцам почырку лідара “Грамады”!

12 снежня 1931 года каліграф атрымаў 12 злотых за сваю экспертызу пяці рукапісаў, якія з’яўляліся рэчавымі доказамі ў новай крымінальнай справе Б.Тарашкевіча.

А за даследаванне грыпсаў у справе Яўгена Скурко ён займеў 10 злотых.

Дык вось, разбор гэтай справы ў Віленскім апеляцыйным судзе пачаўся 20 лютага 1935 года.

Максім Танк занатаваў у “Лістках календара”: “...абвінавачваўся я ў тым, што ў Вільні 14.02.1934 г. напісаў і распаўсюджваў антырэлігійны твор...”

Гаворка ўсё пра тую ж паэму “Як бог гуляў на вечарыне”.

З кнігі М.Мікуліча “Максім Танк: на скразняках стагоддзя” можна даведацца, што гэты свой астрожны опус паэт ацэньваў як слабы раешнік, радаслоўную яго выводзіў ад “Гаўрыліяды” А.Пушкіна і “Бібліі” Кандрата Крапівы, а на судзе, у чарговы раз адмовіўшыся ад аўтарства, увогуле прыпісаў яго Кандрату Крапіву.

А як жа, трэ было ратавацца, бо згодна з артыкулам 172: “...хто публічна блюзнерыць, той падлягае турэмнаму зняволенню да 5 гадоў...”!

Гэтым артыкулам, дарэчы, пачынаўся 26-ы раздзел крымінальнага кодэкса міжваеннай Польшчы “Злачынствы супраць рэлігійных пачуццяў”.

Акрамя стварэння блюзнерскага твора, паэт абвінавачваўся і ў тым, што 30.04.1934 г. напісаў і распаўсюджваў (зноў цытую “Лісткі календара”) “...першамайскую адозву, у якой быў заклік выступаць “супраць тэрору і пацыфікацыі, у абарону СССР і Чырвонага Кітая, супраць фашысцкай дыктатуры, змагацца за Польскую Савецкую Рэспубліку, за права самаакрэслення аж да аддзялення...”

І яшчэ адна вынятка: “...І пракурор, і сведкі (у мяне не было адваката) сарамліва абыходзілі той факт, што гэтыя крамольныя матэрыялы былі знойдзены ў турме, і не ў маёй камеры... Усё абвінавачванне трымалася на паказаннях стражнікаў А.Трухана і Т.Бараноўскага, якія сцвярджалі, што я даўно быў ім вядомы як аўтар падобных грыпсаў. Іх падтрымліваў і “графолаг”, хутчэй усяго — нейкі шпік, І.Бругаль...”

Узяўшы слова “*графолаг*” у двукоссе, Максім Танк такім чынам выказаў сваю непрыхільнасць да службоўца, экспертызы якога яму асабіста маглі вельмі нашкодзіць.

Аднак жа прозвішча “графолага” не Бругаль (няхай сабе ён і шпік), а ўсё ж такі Другаль.

Па-свойму цікава і тое, што М.Бжэскага паэт наогул не згадаў у сваіх запісах, а мог бы не проста згадаць, а згадаць з удзячнасцю...

Выступленне Мечыслава Бжэскага з’явілася кульмінацыяй разбору!

Эксперт заявіў, што Яўген Скурко піша прыгожым почыркам і ён мог напісаць грыпсы, аднак тэксты, далучаныя да актаў справы, накрэслены на вельмі маленькіх аркушыках і вельмі дробнымі літарамі, таму асаблівасці пісьма страцілі пэўныя рысы, уласцівыя почырку падсуднага; у выніку — **немагчыма пэўна сцвердзіць, чыёй рукой накрэслены грыпсы — Яўгена Скурко ці нейкай іншай асобы;** тым болей што почырк Яўгена Скурко характэрных прыкмет не мае, а ўяўляе сабой звычайны тып хуткага канцылярскага почырку, якім пішуць многія людзі...

М.Бжэскі аддаў таксама належнае і свайму калегу Ігнацы-Леану Другалю — маўляў, ягоная экспертыза трапная і слушная, аднак яна тычыцца толькі фрагментаў; гэтай экспертызы дастаткова для прызнання вялікай верагоднасці паходжання почырку ад рукі падсуднага, але яе недастаткова для катэгарычнага пра тое сцвярджэння...

Каліграф М.Бжэскі паказаў сябе вялікім дыпламатам!

Яго асноўная думка: усё вельмі падобна, але няпэўна!

А раз так, то напрошваецца выснова: давер павінен перамагчы падазронасць!

І апеляцыйны суд зразумеў пасланне графолага, апраўдаў Яўгена Скурко — гэта значыць зацвердзіў пастанову акруговага суда.

**P.S. Матэрыял у поўным аб’ёме можна будзе прачытаць у часопісе “Дзеяслоў”.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Зміцер Вайцюшкевіч пабываў у беластоцкай вар'ятні

*Выйшаў у свет новы альбом Зміцера Вайцюшкевіча і WZ-Orkiestra "Ваячак". Дыск запісаны на вершы польскага паэта Рафала Ваячака. Цікава, што фотасесія да яго была зроблена ў беластоцкай вар'ятні.*

Рафал Ваячак (1945—1971) — адзін з найбольш інтрыгуючых і таямнічых польскіх паэтаў XX стагоддзя, прадстаўнік так званых "праклятых паэтаў". Алкаголік, правакатар, скандаліст, які неаднаразова лячыўся ў вар'ятні і са школьных гадоў здзяйсняў спробы самагубства. Уласную смерць ён зрабіў адной з галоўных тэм сваёй поўнай эпатажу, але вытанчанай у літаратурным сэнсе паэзіі.

— *Мне заўжды цікава паказаць менавіта чалавечыя моманты ў творчасці кожнага паэта,* — распавядае Вайцюшкевіч. — *Таму Маякоўскага я пазбавіў сацыялізму, а Ваячака — пэўнай часткі дэпрэсіі. Хацелася падкрэсліць, што ён быў у тым ліку выдатным лірыкам — у яго шмат вершаў пра жанчын, пра жаночае цела. Але пэўныя моманты "псіхадэліі" ўсё ж прысутнічаюць — увасобіць іх у музыцы дапамог вядомы гітарыст Сяргей Кананові*ч.

Ад узнікнення ідэі альбома да яго выдання прайшло шэсць гадоў. Для запісу гэтай работы Зміцер вывучыў польскую мову, але ў працэсе вырашыў спяваць на беларускай — вершы пераклалі **Андрэй Хадановіч і Вальжына Морт**. Аздабленне для альбома зрабіў вядомы польскі беларус **Юрка Асеннік**, лідар гурта Zero-85.

— *Фотасесію для аздаблення мы рабілі ў вар'ятні ў Беластоку,* — гаворыць артыст. — *На вокладцы - сапраўдны тамтэйшы ключ ад дзвярэй, без якога нельга патрапіць з калідора ў пакой ці наадварот. Гэта і артэфакт, і метафара альбома. У музычным сэнсе мы спрабавалі вынайсці менавіта такі ключ да паэзіі Ваячака, адкрыць яе для беларускага слухача.*

ПРИГОВОР

## Семь с половиной лет колонии

*Налоговик, который многим попортил нервы, не избежал наказания*

Бывшего заместителя начальника инспекции Министерства по налогам и сборам по Партизанскому району Минска приговорили к длительному сроку лишения свободы за взятку и превышение служебных полномочий.

Об этом корреспонденту БЕЛТА сообщили в прокуратуре столицы.

Обвиняемый более года (с ноября 2009-го по декабрь 2010 года) занимал должность заместителя начальника ИМНС Республики Беларусь по Партизанскому району Минска, то есть являлся должностным лицом, занимающим ответственное положение. В марте 2010 года он за денежное вознаграждение в размере 10 тысяч долларов оказал содействие в формальном проведении налоговой проверки одного из ИП без отражения в акте всех нарушений действующего налогового законодательства. Тем самым удалось избежать направления сведений о крупных нарушениях в Департамент финансовых расследований для проведения доследственной проверки.

Бывший чиновник был признан виновным в совершении преступления по ч.3 ст.430 УК Беларуси ("Получение взятки"), а также по ч.3 ст.426 УК ("Превышение власти или служебных полномочий") и приговорен к лишению свободы сроком на 7 лет и 6 месяцев с конфискацией имущества и лишением права занимать организационно-распорядительные, административно-хозяйственные должности сроком на 4 года, с отбыванием наказания в исправительной колонии в условиях усиленного режима. Также суд постановил взыскать с осужденного в доход государства необоснованно полученный доход в размере 82,8 миллиона рублей.

НЕЗВЫЧАЙНАЯ СУСТРЭЧА

*Фёдар КОНЮХАЎ:*

# «Я не жадаў бы, каб мае дзеці падарожнічалі»

*Легендарны расійскі падарожнік Фёдар Конюхаў распавёў аб святых продках, аб тым, дзе знаходзіцца Сагарматха і чаму ён баіцца машын...*





### Праваслаўны будыст

Пасля размовы з такім чалавекам, як Фёдар Конюхаў, хочацца доўга маўчаць і шмат думаць. Каб урэшце прыйсці да высновы: добра, што давялося сустрэцца.

Расійскі мастак, вандроўнік, святар — унікальная асоба, і справа тут не толькі ў шасці кругасветках. Уражвае ўнутраны спакой і парадаксальная, амаль што непрыстойная ў нашы цынічныя часы шчырасць. Гледзячы на яго, разумееш нарэшце сэнс будысцкага паняцця *"прасветлены"*.

У Мінск Конюхаў прыехаў, каб дапамагчы ў стварэнні праваслаўнага храма.

*"Мне вельмі прыемна вяртацца ў Беларусь,* — усміхнуўся ўспамінам вандроўнік. — *Мая маладосць прайшла ў Бабруйску, дзе я вучыўся ў мастацкім вучылішчы. Зараз у Мінск я прыехаў па запрашэнні святароў Уладзіміра і Валерыя, якія плануюць пабудаваць храм Вадохрышча. Ён ужо будуецца. Ужо ёсць званіца, прывезены званы з Варонежа. Я ўзяў з сабой 40 карцін, якія адабралі айцец Уладзімір і айцец Валерый. Асабліва хацеў паказаць свае работы ў Беларусі, таму што тут мае сябры, мае аднакурснікі. У мяне ўжо было шмат выстаў, але ў Беларусі гэта першая"*.

### Сям'я памора

Своеасаблівая, вельмі практычная і сумленная філасофія Конюхава спачатку здзіўляе, а потым падкупляе. Мімаходам, не засяроджваючы ўвагу, ён прызнаецца, што сярод яго продкаў — пяць кананізаваных святароў. Потым дадае, што яго прадзед падарожнічаў па Поўначы разам са знакамітым даследчыкам **Георгіем Сядовым**.

Многія не ведаюць, але ў 58 гадоў Фёдар Конюхаў прыняў сан святара і ўжо даўно збіраецца накіравацца ў родныя мясціны да памораў, каб маліцца за маракоў. У горадзе падарожнік адчувае сябе не на месцы.

*"Я люблю людзей і, калі адзін у падарожжах, хутка пачынаю сумаваць,* — прызнаецца Фёдар. — *Але доўга ў горадзе не магу. Тут усе занятыя, толькі я без справы. Машын баюся, бо яны вельмі хутка ездзяць. Прашу, каб мяне праз дарогу пераводзілі.*

*Ды і сваякі мае стамляюцца ад мяне. Калі я ў моры, яны ядуць, што жадаюць, а я кожны раз прашу толькі селядзец з бульбай варанай"*.

Што тычыцца спраў сямейных, то іх Фёдар Піліпавіч пакідае на жонку. Разам яны ўжо шмат гадоў, вырасцілі дзяцей і нават хадзілі ў плаванне.

*"Я не хацеў бы, каб мае дзеці падарожнічалі,* — распавёў Конюхаў. — *Але мой сын узначальвае Федэрацыю парусны спорту Расійскай Федэрацыі, і па родзе заняткаў яму даводзіцца гэта рабіць. Вось зараз на Алімпіяду ён ішоў з Нью-Ёрка ў Англію праз Атлантычны акіян. Ён ішоў, а я думаў, што лепш бы гэта я рабіў, я ж ведаю як, а ён... Маліўся і перажываў. Калі б мае дзеці ці ўнукі падарожнічалі так, як я, напэўна, пасівеў бы ад перажыванняў"*.

### Духоўнае падарожжа

За 40 гадоў, што Фёдар Конюхаў вандруе, ён пабываў у розных канцах свету. Бачыў бяскрайнія снежныя прасторы і гарачыя пяскі Сахары. Нават пасябраваць з піратамі давялося.

*"Мяне адзін сябра папрасіў перагнаць яго яхту ўздоўж Самалі,* — прыгадаў Фёдар Піліпавіч. — *Ніхто брацца не хацеў, бо там жа піраты! Звярнуўся па дапамогу да прэзідэнта Самалі, бо я яго добра ведаю, сам ён зух — былы пірат. Але мне дапамагчы нічым не мог, бо ніякай рэальнай улады ў краіне не мае, толькі б сябе абараніць. Так што паплыў адзін і, наўздзіў, усё абышлося. Даставіў яхту на месца без праблем"*.

Цікавы выпадак — толькі адна старонка з біяграфіі выбітнага падарожніка. У яго жыцці здаралася рознае, нават аперацыю быў вымушаны рабіць сам сабе. Але тое, што давялося перажыць, убачыць і адчуць, вартае ўсіх выпрабаванняў, упэўнены Конюхаў.

*"20 гадоў таму расійская група, у якой удзельнічаў і я, скарыла Эверэст,* — падзяліўся Фёдар Піліпавіч. — *Мы падымаліся па тыбецкім баку гары і спыніліся перавесці дух у пячоры пустэльніка. Ён напаіў нас гарбатай, запытаўся, куды ідзём. Я паказаў у бок вяршыні, а той усміхнуўся, маўляў, ён ужо бываў на самым версе Сагарматхі (так у Тыбеце завуць Джамалунгму, ці Эверэст). Я тады моцна здзівіўся — як жа такі кволенькі, непадрыхтаваны чалавек здолеў дасягнуць вяршыні? А той патлумачыў, што здзейсніў туды духоўнае падарожжа.*

*Дык вось, калі мы скарылі Сагарматху і я глядзеў па баках, да мяне прыйшло паразуменне — і я тут быў. Бо, калі вельмі прагнеш чагосьці, уяўляеш, цікавішся, як гэта будзе, духам ты падарожнічаеш..."*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Александр ТРОЩИЛО:*

# «Радости пока мало...»

*Новый главный тренер сборной Беларуси по легкой атлетике рассказал "Народной Воле" о сегодняшнем дне и будущем отечественной королевы спорта.*



Как уже сообщалось, Александр Трощило был представлен команде 25 октября.

Новому наставнику национальной сборной 51 год. В его активе титул чемпиона мира в эстафете 4х400 метров.

С мая нынешнего года Трощило исполнял обязанности главного тренера сборной, а до этого он долгое время работал гостренером.

Бывший главный тренер национальной команды Анатолий Бадуев был уволен "по соглашению сторон". Напомним, в мае Бадуев и врач Павел Дриневский были арестованы, но затем вышли на свободу под подписку о невыезде.

**— Александр Дмитриевич, какое хозяйство вам досталось в наследство? Уже успели разобраться?**

— Честно говоря, сейчас тем и занимаемся, что кропотливо разбираемся в этом хозяйстве. И радости пока мало. Но время еще есть, чтобы все восстановить и расставить по своим местам. Тяжело, трудно, понадобится время... Но, думаю, проблемы удастся решить.

**— И какие основные проблемы?**

— Мне кажется, что раньше не было слаженности в работе. Каждый работал сам по себе. Сейчас нужно ввести централизованную подготовку. Пускай, например, это будет "вертикаль", которой станет руководить старший тренер. Он будет действительно отвечать за свой вид спорта, приглашать тех спортсменов, которые имеют перспективу. Именно в них нужно вкладывать деньги. Это то, что необходимо на данном этапе. Больше внимания молодежи, которая на подходе к взрослому спорту, чтобы стабилизировать национальную команду и привести ее к следующей Олимпиаде в нормальное состояние.

**— Говорят, что поколение старой легкоатлетической школы уходит, а в перспективе — ничего...**

— Я бы так категорично не утверждал. У нас есть талантливые спортсмены. Просто этим людям нужно дать время, чтобы нормально восстановиться после перескакивания с одних соревнований на другие. Для этого надо правильно выработать календарь, чтобы мы точно знали, где, кто и когда будет выступать. Кроме того, необходимо, чтобы и спортсмены чувствовали себя комфортно. Не надо их терзать. Должна быть правильная стратегия — и тогда все станет на свои места.

**— А почему, на ваш взгляд, сложилась такая ситуация в легкой атлетике?**

— Не было единого контроля над подготовкой. Вот и все! Назовем это неудачной линией, которая прошла по национальной команде. Без дисциплины ничего не получится. Порядок бьет класс. Если включим эти рычаги, то будет и результат.

**— Не так давно на коллегии в Министерстве спорта вы сказали: "Мы проиграли эту Олимпиаду в методике и фармакологии. Надо иметь хороших специалистов. Спортивные ноу-хау до нас не доходили... Технологии поменялись, и мы со своими старыми методиками уже не вписываемся. У нас не появилось ничего нового. Россияне и немцы заходят в кабинку, делают, что им нужно, и идут метать молот. А то, с чем мы готовились, — это 1979 год".**

— Я от своих слов и не отказываюсь. Спортсменам нужна квалифицированная помощь профессиональных врачей, специалистов. Речь, конечно, идет о разрешенной фармакологии. Тогда белорусские спортсмены перестанут попадать в разные неприятные ситуации.

**— Кстати, что слышно об истории с Надеждой Остапчук, которую лишили золотой олимпийской медали за применение допинга? Возможно, что-то известно об окончательной реакции Международной федерации легкой атлетики?**

— Пока нет никакого ответа, ждем.

**— Как вы оцениваете ситуацию, в которой оказалась именитая спортсменка?**

— Что случилось, то случилось... Всякое бывает в жизни. И если ее тренер говорит, что тайно дал ей допинг-препарат, то он, наверное, знает, о чем говорит.

**— Есть и другая версия. Мол, Ефимова попросили, чтобы он сделал такое признание, чтобы Международная федерация вынесла Надежде приговор помягче.**

— Всю правду может сказать только сам тренер. Надежда Остапчук — лучшая ученица Ефимова, но я не думаю, что ему кто-то что-то приказывал. Возможно, он сам решил защитить спортсменку.

**— Какую дисквалификацию может получить Остапчук?**

— С моей точки зрения, отстранить от соревнований ее могут на срок от полугода до года. Надя ни в чем подобном никогда не была замечена, так что не думаю, что наказание будет жестким. Хотя законы суровы — могут дисквалифицировать и на два года. В этом плане можно только гадать.

**— Вы рассчитываете на Надежду к Олимпиаде 2016 года?**

— Безусловно. К тому времени можно восстановиться и набрать хорошую форму. А Надежда очень трудолюбивый человек.

**— Договориться с вами на интервью было довольно не просто. Постоянные заботы, в прошлый раз вы сказали, что нет времени, потому что ищете деньги...**

— А что делать? Это тоже не последний вопрос. Оказалось, что очень много денег было израсходовано во время подготовки к Олимпийским играм, и сейчас финансов, скажем так, несколько не хватает. А значит, надо искать. Отыщутся — хорошо. Нет — значит, будем готовиться, затянув пояса. Сейчас практически все сборы мы переносим в Беларусь. За редким исключением.

**— В хоккее и футболе у сборной достаточно спонсоров. В легкой атлетике такого нет?**

— У нас новый председатель федерации — Григорий Павлович Косяченко, и буквально на днях мы ездили в Брест, где встречались с заместителем председателя Брестского облисполкома. Там как раз и поднимались вопросы по оказанию материальной помощи легкой атлетике. Предварительно нам не отказали.

**— Легкая атлетика ведь не очень затратный вид спорта?**

— Конечно, нам же "Минск-Арену" арендовать не надо. У нас есть манеж в Минске на улице Калиновского, и сейчас пытаемся сделать там реконструкцию. Думаю, к 2014 году вопрос будет решен. Другое дело, что мало детей идет в легкую атлетику. Вот это грустно. Все же стремятся отдать свои чада в игровые виды спорта, поменялись рамки зачисления в ДЮСШ. Детей принимают с 8—10 лет, в легкой атлетике — с четырнадцати. То есть до нас они не доходят, получается дисбаланс. Да и игровые виды спорта популярнее, там хорошие заработки. А родители не дураки, понимают, куда надо отдавать детей. Ведь зарплаты хоккеистов несравнимы с заработками легкоатлетов.

**— Всем известно, что есть проблемы и с детскими тренерами.**

— Такая проблема не только в нашем виде спорта. Детских тренеров просто не хватает, в регионах нет притока молодых специалистов.

**— Не престижно?**

— Начальная заработная плата маленькая — 1.800.000—2.000.000 рублей. Если у школы есть какая-то хозяйственная деятельность, то они, конечно, доплачивают, но многие уходят, потому что хотят нормально зарабатывать и хорошо жить. Тенденция такова, что многие хотят сразу же получить все. Но при этом забывают, что нужно поработать хотя бы пять лет, чтобы кого-то подготовить и, соответственно, повысить свой уровень благосостояния.

**— Александр Дмитриевич, журналисты уже не раз поднимали тему, что чемпионаты Беларуси по легкой атлетике проходят практически при пустых трибунах, хотя на первенстве выступают белорусские звезды. Это болельщики игнорируют легкую атлетику или менеджмент у нас такой?**

— Для того чтобы болельщики приходили на легкоатлетические соревнования, нужна очень хорошая профессиональная реклама. А на рекламную кампанию нужны деньги. Конечно, необходимо больше показывать белорусских спортсменов по телевидению, все должно быть на экране, чтобы людям было интересно. Пускай бы транслировали по ТВ чемпионаты страны. Пускай не все первенство, но лучшие сюжеты, лучшие забеги, лучшие финалы... Вот тогда легкая атлетика будет популярна. Но этим опять-таки нужно заниматься. Да и от СМИ мы ожидаем ответной положительной реакции, потому что на наш вид спорта в последнее время уже столько негатива вылилось! И правды, и неправды... Я понимаю, что журналистам тоже нужны гонорары за громкие статьи, но ведь нужно еще думать и о том, где мы живем. А живем мы в родной стране, которую нужно защищать и продвигать. Поймите, негатив тоже очень сильно влияет.

**— Но это ведь не журналисты подсыпают допинг белорусским легкоатлетам и не они арестовывали вашего предшественника в сборной Анатолия Бадуева...**

— Факты есть — пишите. Но сейчас, наверное, хватит уже "полоскать" легкую атлетику? Нам сейчас на самом деле сложно, хотелось бы спокойно работать. А негатива хватает в любом виде спорта. Хотя я понимаю, почему к легкой атлетике особое отношение. Просто все уже привыкли, что это вид спорта, который регулярно приносит медали. Неужели вы думаете, что в команде никто не переживает?..

**— Сами-то вы в будущее смотрите с оптимизмом или с пессимизмом?**

— С оптимизмом, и, думаю, все постепенно наладится. Для этого понадобится время, но надо потерпеть. Лично я постараюсь сделать все, чтобы белорусская легкая атлетика поднялась на новые высоты.

**Алесь СИВЫЙ.**

ПО ПОВОДУ

## Что после Хейккиля?..

*Еще 11 октября с поста главного тренера хоккейного минского "Динамо" был освобожден финский специалист Кари Хейккиля. Что дальше?*

На момент ухода Хейккиля команда уже находилась в подвале турнирной таблицы. Под его руководством динамовцы проиграли 10 из 16 матчей. Поэтому с этой отставкой трудно не согласиться. В таких случаях, как правило, виноват тренер. Но ведь кто-то же его принимал на работу.

Видимо, брали, не имея компетентного мнения. По чьим-то рекомендациям. Достаточно дорогостоящий контракт был заключен, и, возможно, клубу еще придется выплачивать господину Хейккиля какую-то сумму. Наверное, пора руководителям клуба умерить свои амбиции и освободиться от так называемых советников. Нужно больше прислушиваться к мнению наших ведущих специалистов хоккея и болельщиков. Делать ставку на белорусов!

После отставки финна исполняющим обязанности главного тренера стал Александр Андриевский. И что же? Выездная серия началась для динамовцев с поражения 2:7 от магнитогорского "Металлурга". Проиграли они 0:2 и челябинскому "Трактору". Видимо, на кардинальные перемены к лучшему (даже при помощи тренера-консультанта Марека Сикоры) в ближайшее время нам не стоит рассчитывать. Нужно признать, что наши хоккеисты по своему функциональному состоянию еще уступают многим соперникам по чемпионату. Кроме того, по-прежнему имеет место неумение реализовывать численное большинство. Нет пока у "Зубров" и двух равноценных вратарей. Все это отрицательно сказывается на матчах. Хромает стабильность.

А.Андриевский откровенно говорит, что, к сожалению, стабильности не хватает не только отдельным игрокам, но и всей команде. И не надо пускаться в рассуждения о психологии игроков. Ведь рядовому болельщику совсем не интересно знать, что случилось с психологией игроков, получающих огромные деньги. Он хочет видеть ледовых рыцарей, показывающих атакующий, результативный, победный хоккей.

Будем надеяться, что руководители клуба в перерыве чемпионата и сами хоккеисты устранят имеющиеся недостатки.

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер БССР.**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 12181

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.11.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27350 экз. Заказ №5034.**